ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№4 (61) красавік 2016 год
CATHOLICNEWS.BY

# У Пінску прайшла агульнабеларуская сустрэча семінарыстаў

Стар. 10-11

## Як ксёндз на Вялікдзень злодзея затрымаў



Стар. 6-7



Стар. 12

## Сустрэча з Нікам Вуйчычам

## Чаму святары не жэняцца?



Стар. 18

## "Семінарыст на ўікэнд"



Стар. 8

## Тайна хрысціянскіх сімвалаў

Стар. 16



# Гледзячы ў мінулае, або 10 фактаў з гісторыі “Каталіцкага Весніка”

Дарагія сябры! За пяць гадоў існавання газеты назбіралася шмат цікавых момантаў, якімі б я хацеў падзяліцца з вамі. Юбілей – гэта заўсёды позірк у мінулае, асэнсаванне цяперашняга і надзея на будучыню. Спадзяюся, што той вопыт, які нам удалося набыць за пяць гадоў выдавецкай дзейнасці, дапаможа рэдакцыі працаваць больш плённа і аддана. Такім чынам, пачнём.

**кс. Віктар Місевіч**, *галоўны рэдактар*



**1** Першы нумар “Каталіцкага Весніка” знаходзіцца ў Ватыкане. Я асабіста перадаў яго для Папы Бэнэдыкта XVI падчас сустрэчы з арцыбіскупам Клаўдыё Марыя Чэлі, старшынёй Папскай рады па сродках масавай камунікацыі. Гэта адбылося 13 мая 2011 года.

**2** Самы тыражны нумар газеты быў падпісаны ў друк 25 чэрвеня 2014 года. Колькасць экзэмпляраў – 4500 шт.

Самы малакалькасны нумар – 2300 экзэмпляраў – быў падпісаны ў друк 19 мая 2011 года.






**3** Праца ў рэдакцыі у сувязі з дэдлайнам бывае і начной. Самы “начны” выпуск – гэта 14 нумар газеты ў 2012 годзе. Ён быў падпісаны ў друк ноччу а 2.40.

**5** Вырасла паласнасць газеты. Першы нумар вярстаўся як васьміпалоснае выданне напалову чорна-белае, напалову каляровае. Сёння ўсе нумары Весніка выходзяць у колеры паласнасцю 16 старонак.

8 → 16

**4** За пяць гадоў працы колькасць супрацоўнікаў рэдакцыі значна вырасла. Над першым нумарам працавалі 6 чалавек, сярод якіх – адзін святар. На сённяшні дзень выпуск кожнага нумара “Каталіцкага Весніка” – гэта вынік працы 14 чалавек, сярод якіх – 6 святароў.

2011 год

2016 год

**6** У Віцебскай дыяцэзіі найбольш чытаюць Веснік, паводле дадзеных Белпошты, у Глыбокім, Паставах, Браславе, Докшыцах і Мёрах. У Гродзенскай – у Астраўцы, Ашмянах, Лідзе і Шчучыне, у Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі – у Маладзечне, Мядзелі, Мінску і Стоўбцах.




Успамінаючы пачатковы перыяд выхаду газеты, момант яе рэгістрацыі, хачу падзякаваць курыяльнаму юрысту сп-ні Валянціне Адамцовай. Ёй у 2011 годзе давялося перарваць сваё лячэнне ў санаторыі, каб паспець падрыхтаваць дакументы на рэгістрацыю ў Міністэрстве інфармацыі.

Хачу выказаць найвялікшую ўдзячнасць супрацоўнікам рэдакцыі за адданую працу. Асабліва хачу падкрэсліць працу святароў, якія, нягледзячы на душпастырскія абавязкі, знаходзяць час, каб падзяліцца Божым словам праз перыядычны друк.

Вялікая ўдзячнасць усім чытачам газеты за падпіску і падтрымку малітвай, а таксама ахвяраваннямі. Разам мы зможам многае! Давяраю ўвесь праект “Каталіцкага Весніка” добраму Богу і асаблівай апецы св. Францішка Сальскага, апекуна журналістаў.

**7** За пяць гадоў “Каталіцкі Веснік” падаражэў у 12 разоў. Першапачаткова падпісная цана на газету ў 2011 годзе была 750 руб. за адзін нумар. У другім паўгоддзі 2016 года падпісная цана будзе 9000 руб, або 90 капеек, калі ўлічваць дэнамінацыю нацыянальнай валюты.



**8**



Журналісты “Каталіцкага Весніка”, выконваючы свае службовыя абавязкі, праехалі за 5 гадоў больш за 54 000 км, што перавышае даўжыню экватара нашай планеты. Дарэчы, даўжыня экватара – 40 000 км.

**9** Самыя далёкія пункты, адкуль даваліся рэпартажы, – гэта Партугалія, Італія, Польшча, Украіна, Латвія і Эстонія.



**10** Калектыў рэдакцыі “Каталіцкага Весніка” ўзнагароджаны Дыпломам за 1-е месца ў аглядзе-конкурсе па ўжыванні беларускай мовы сярод рэгіянальнага друку ў 2014 годзе. Узнагарода прысуджана Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны.



# Семінарысты з Гродна наведалі месца мучаніцтва св. Андрэя Баболі

**Семінарысты з Гродна наведалі месца мучаніцтва св. Андрэя Баболі, які прыняў пакутніцкую смерць у Янаве Палескім (сёння – Іванава).**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Св. Андрэй Баболя паходзіў з Польшчы, але выконваючы сваё манаскае і святарскае пакліканне (быў езуітам), ён прапаведаваў у Вільні, Полацку і іншых мясцінах Беларусі. За сваю актыўную душпастырскую дзейнасць быў празваны "душахватам". Загінуў ад рук украінскіх казакоў страшнай мучаніцкай смерцю ў 1657 г.

Згістарычныхкрыніцвядомае дакладнае месца захопу і смерці святога прапаведніка. У сённяшнім Іванаве на месцы захопу мучаніка ўсталяваны два крыжы: каталіцкі і праваслаўны. Недалёка ад месца мучаніцкай смерці стаіць каталіцкі касцёл і праваслаўная царква.

Семінарысты памаліліся ля месца захопу святара і ў касцёле, які збудаваны недалёка ад месца смерці святога.





## Фотафакт



Айцец Андрэй Жылевіч з ордэна капуцынаў вучыцца аказваць першую медычную дапамогу пацярпеламу падчас семінара па асновах валанцёрства. Семінар праходзіў у Бараўлянах з 15 па 17 красавіка ў рэлігійнай місіі "Карытас" пры супрацоўніцтве з Мальтыйскай службай дапамогі. *Фота Ірыны Грэйць*

# Гродзенская дыяцэзія запрашае на Эўхарыстычны кангрэс

## Праграма Эўхарыстычнага кангрэсу з нагоды юбілею 25-годдзя Гродзенскай дыяцэзіі




### 24 мая – АЎТОРАК

**15.30** – прывітанне ўдзельнікаў і канферэнцыя I *(зала Яна Паўла II, Вышэйшая духоўная семінарыя)*

**19.00** – святая Імша *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*

**20.15** – эўхарыстычная адарацыя *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*

### 25 мая – СЕРАДА

**09.30** – эўхарыстычная адарацыя і ранішняя малітва *(касцёл Адшукання Святога Крыжа – Пабернардынскі)*

**10.00** – канферэнцыя II *(касцёл Адшукання Святога Крыжа – Пабернардынскі)*

**12.00** – святая Імша *(касцёл Адшукання Святога Крыжа – Пабернардынскі)*

**16.00** – канферэнцыя III *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*

**17.15** – набажэнствa да Найсвяцейшай Панны Марыі *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*

**20.00** – канцэрт касцёльных хароў *(Гарадскі дом культуры, вул. Дзяржынскага, 1);* вечар праслаўлення для моладзі *(пляц пры касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля на Дзевятоўцы)*

### 26 мая – ЧАЦВЕР

**09.30** – эўхарыстычная адарацыя і ранішняя малітва *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*

**10.00** – канферэнцыя IV (катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)

**12.00** – падсумаванне кангрэсу *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*

**18.00** – святая Імша *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)* і эўхарыстычная працэсія па вуліцах горада

# Радасць любові.
## Новая адгартацыя Папы Францішка



**На працягу некалькіх апошніх гадоў у Каталіцкім Касцёле на найвышэйшым узроўні вывучалася актуальная сітуацыя ў сферы сямейных адносін. Пытанні і праблемы сям'і ў сучасным свеце былі тэмай абмеркавання на Сінодах біскупаў, якія праходзілі ў 2014 і 2015 гг. у Ватыкане. 8 красавіка 2016 г. была апублікавана другая Апостальская адгартацыя Папы Францішка "Amoris Laetitia" ("Радасць любові"), якая падсумоўвае праведзеную працу і з'яўляецца дакументам, што найбольш аўтарытэтна прадстаўляе адказ Каталіцкага Касцёла на выклікі сучаснасці.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Дакумент пачынаецца з уступных пунктаў, якія падкрэсліваюць важнасць усведамлення складанасці тэмы. Выступы айцоў падчас Сіноду ўтварылі каштоўны шматграннік, які варта захаваць. Папа адзначае, што для вырашэння складанай сітуацыі, у якой апынуліся сямейныя адносіны ў сучасным свеце, варта выйсці за межы бясплоднага супрацьстаяння паміж трывожным чаканнем пераменаў і простым прымяненнем абстрактных нормаў. "Дыскусіі, якія знаходзім у сродках інфармацыі, у публікацыях і нават паміж служыцелямі Касцёла, – гаворыць Пантыфік, – паходзяць або ад нястрымнага жадання ўсё змяніць, без належных роздумаў і падстаў, або ад падыходу, што ўсё можна вырашыць, ужываючы агульныя нормы".

Звяртаючыся да Святога Пісання, Францішак падкрэслівае, што ў Бібліі сям'я – гэта не абстрактны ідэал, але задача, якую трэба вырашыць, што дасягаецца праз пяшчоту, але што ад пачатку змагаецца з грахом. Папа разглядае актуальнае становішча сем'яў, спасылаючыся на канчатковыя даклады абодвух Сінодаў, і аналізуе шматлікія выклікі: ад з'явы міграцыі – да ідэалагічнага адмаўлення адрознення палоў (ідэалогія гендэра); ад «культуры часовасці» – да ментальнасці, варожай нараджальнасці і ўплыву біятэхналогій на сферу працягу людскога роду; ад праблемаў, звязаных з адсутнасцю жылля і працы, – да наступстваў парнаграфіі і злачынстваў супраць непаўналетніх; ад увагі да людзей з асаблівымі патрэбамі – да павагі да сталых асобаў; ад заканадаўчых зменаў у разуменні сям'і – да гвалту над жанчынамі. Святы Айцец звяртае ўвагу на тое, што "даведзены да крайнасці індывідуалізм" перашкаджае, каб велікадушна дарыць сябе іншай асобе, што стварае падмурак сучасных праблемаў.

> **"...у Біблії сям'я – гэта не абстрактны ідэал, але задача, якую трэба вырашыць"**

Звяртаючыся да актуальных істотных пунктаў вучэння Каталіцкага Касцёла пра сям'ю, Францішак адзначае, што "ў той час, калі дактрына павінна быць выразна выкладзеная, варта пазбягаць суджэнняў, якія не прымаюць пад увагу складанасці розных сітуацый. Трэба быць уважлівымі да таго, як людзі жывуць і пакутуюць з нагоды свайго стану". Можам заўважыць, што штодзённае практыкаванне любові далёкае ад ідэалу. "Немагчыма, – піша Папа, – накладваць на плечы двух абмежаваных асобаў вялікі цяжар неабходнасці адлюстраваць дасканалым чынам адзінства, якое існуе паміж Хрыстом і Яго Касцёлам". Аднак, з іншага боку, Святы Айцец рашуча сцвярджае, што "ў самой прыродзе сужэнскай любові прысутнічае адкрытасць на канчатковасць і нязменнасць у сваім рашэнні", усведамляючы, што шлюб з'яўляецца "спалучэннем радасці і цяжкасцяў, напружання і адпачынку, пакуты і вызвалення, задавальнення і пошукаў, перашкодаў і прыемнасцяў"... "Мы не можам абяцаць адно аднаму мець тыя ж пачуцці на працягу ўсяго жыцця. Але можам, без сумневу, мець агульны стабільны праект, спрабаваць кахаць і жыць у адзінстве, пакуль смерць нас не разлучыць".

> **"Ні адна сям'я не з'яўляецца дасканалай, раз і назаўжды створанай рэчаіснасцю, але патрабуе паступовага развіцця сваёй здольнасці любіць"**

З асаблівай духоўнасцю і глыбокай псіхалагічнасцю гаворыцца пра прыняцце новага жыцця, чаканне, уласцівае цяжарнасці, пра бацькоўскую і мацярынскую любоў, а таксама пра пашыраную плоднасць, пра ўсынаўленне. У дакуменце падкрэслены погляд на сям'ю як на сукупнасць адносін.

У рэшце рэшт, сакрамант шлюбу мае глыбокі сацыяльны характар. Разглядаецца таксама праблема сужэнстваў паміж асобамі розных канфесій або веравызнання, праблемы людзей з гомасексуальнай схільнасцю. Святы Айцец падкрэслівае важнасць павагі да іх годнасці і недапушчэння несправядлівай дыскрымінацыі. У той жа час ён звяртае ўвагу, што "не існуе ніякіх падставаў", каб прыраўноўваць або праводзіць нават аддаленыя аналогіі паміж гомасексуальнымі саюзамі і сужэнствам, згодным з Божай задумай.

Асобная ўвага прысвечана таксама палавому выхаванню, падкрэсліваецца яго важнасць і неабходнасць у кантэксце таго, што наша эпоха "схільная банальнізаваць і збядняць сексуальнасць".

У тым, што тычыцца распазнання неўрэгуляваных сітуацый, прымаючы заўвагі шматлікіх айцоў Сіноду, Папа сцвярджае, што варта "пазбягаць суджэнняў, якія не прымаюць пад увагу складанасць розных сітуацый"... "Ахрышчаныя, якія развяліся і заключылі новы грамадзянскі шлюб, рознымі магчымымі спосабамі павінны быць больш інтэграваныя ў хрысціянскія супольнасці, пазбягаючы любой формы згаршэння". "Калі прыняць да ўвагі незлічоную разнастайнасць канкрэтных сітуацый (...), становіцца зразумелым, што не варта чакаць новага агульнага правапарадку кананічнага характару, які можна было б прымяніць да ўсіх выпадкаў", – падкрэслівае Святы Айцец.

Каб пазбегнуць двухсэнсоўнасці, Святы Айцец папярэджвае, што "ўлік выключных сітуацый ніколі не ўключае прыхавання святла поўнага ідэалу або прапанову меншага ад таго, што Езус прапануе чалавечай сутнасці".

"Ні адна сям'я не з'яўляецца дасканалай, раз і назаўжды створанай рэчаіснасцю, але патрабуе паступовага развіцця сваёй здольнасці любіць. Усе мы пакліканыя падтрымліваць жывым імкненне да нечага, што выходзіць за межы нас саміх, і кожная сям'я павінна жыць у гэтым пастаянным імкненні.

Сем'і, будзем жа рухацца наперад, не пераставайма ісці наперад!"



# «Сезон хорошего настроения» открыли волонтёры приходского «Каритас» в Глубоком для престарелых и инвалидов

**14 апреля волонтёрами БКО «Каритас» прихода Святой Троицы в Глубоком совместно с сотрудниками Центра детей и молодежи Глубокского района было организовано и проведено мероприятие «Сезон хорошего настроения» с проживающими в психоневрологическом доме-интернате для престарелых и инвалидов в д.Петруново (Глубокский р-н).**

**Даната Матушова**



Директор приходского «Каритас» Геннадий Бервяченок приветствовал всех присутствующих и пожелал хорошего настроения и активного участия в развлекательно-игровой программе.

Тёплая весенняя погода и яркое солнышко побуждало к участию в танцевальных разминках, совместных играх и исполнении знакомых песен.

Участники подарили друг другу позитив, открытое сердце и внимание, в котором мы действительно нуждаемся.

Доброта и милосердие помогают людям оставаться людьми, независимо от состояния здоровья и благополучия. При желании и терпении любой человек может овладеть этими достойными качествами.

От руководства дома-интерната получено согласие на ежемесячные встречи проживающих с волонтёрами.



## Фотафакт



Новазбудаваны касцёл святога Бэнэдыкта і Караля Барамея ў Пінску. Касцёл пабудаваны за пяць месяцаў. На працягу двухсот гадоў нельга было атрымаць дазволу на будаўніцтва касцёла ў Пінску. Гэта першы новазбудаваны касцёл у гісторыі Пінска за апошнія 200 гадоў. *Фота Змітра Лупача*

## “Мы цяпер як у небе – такая прыгажосць!”

### Удзячнасць святарам

*“Будзьце міласэрныя, як і ваш Айцец міласэрны”*
*(Лк 6,36)*

Хвала Хрысту!

Да ўрачыстасці Божай Міласэрнасці ў Годзе Міласэрнасці нашы парафіяне добра і сур'ёзна падрыхтаваліся: былі распрацаваны сімвалічныя жэсты – запальванне свечак ад агню алтара Езуса Міласэрнага, складанне картак з асабістымі просьбамі ля абраза Езуса Міласэрнага, наведванне хворых і адзінокіх з міласэрнымі ўчынкамі.

Было створана амаль 40 груп па 9 чалавек у кожнай для асабістага штодзённага адмаўлення патрэбнай інтэнцыі (а іх 9) на працягу месяца. Асабліва молімся за нашых святароў, за іх шчырасць і адданасць Божай справе – выратаванню грэшнікаў.

Вялікая ўдзячнасць нашаму **ксяндзу-пробашчу Анджэю Возьняку**, які па сваёй ініцыятыве, з нашай падтрымкай і дапамогай, аднавіў святыню. Зроблены цудоўны рамонт унутры касцёла: аднэўлены лаўкі і падлога. На дапамогу нават былі запрошаны альпіністы. Цяпер наш касцёл выглядае як новы.

Многія жартуюць: “Мы цяпер як у небе – такая прыгажосць!” Таксама мы вельмі ўдзячныя нашаму **ксяндзу Анджэю Бульчаку** – будучаму пробашчу новага касцёла Божай Міласэрнасці, які прыкладае шмат намаганняў, каб хутчэй пабудаваць Божы храм. А мы, вернікі, павінны праявіць міласэрнасць і дапамагаць у гэтай Божай справе. А добры Езус Хрыстус аддзячыць кожнаму!

***По даручэнні вернікаў касцёла Св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Паставы, Аліцыя Трафімовіч***



## Віншуем! Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Шчыра віншуем цудоўнага святара **айца Марэка Пасюта** з Днём імянінаў!*

*Дарагі наш айцец Марэк! Мы, Вашы былыя парафіяне з в. Ураджайная, дзякуем Вам за працу і за малітвы ў нашым касцёле. Мы вельмі ўдзячны Вам за мудрыя парады, за добрае сэрца, ахвярную працу, цёплыя адносіны да ўсіх вернікаў.*

*Дарагі айцец Марэк! Ад імя ўсёй парафіі жадаем Вам моцнага здароўя, бадзёрасці і цярпення, Божых ласкаў, апекі Панны Марыі. Сілы Вам для рэалізацыі планаў і намераў, багатага плёну на Божай ніве! Уся наша парафія сумуе без Вас і моліцца за Вас.*

***Ад імя парафіянаў у в. Ураджайная (Глыбоцкі р-н) Ядзвіга Дзегцяронак***

# Як ксёндз на Вялікдзень

**З кс. Віктарам Захарэўскім мяне звязваюць гады сумеснага навучання ў семінарыі ў Гродне. Таму, калі даведаўся, што ён, рызыкуючы сабой, затрымаў злодзея, адразу вырашыў праведаць ксяндза Віктара і падтрымаць яго. Пра тое, як жывецца маладому святару на Гродзеншчыне і што сабой уяўляе парафія ў Раготне (Дзятлаўскі раён), чытайце ў гэтым рэпартажы.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

Каталіцкая парафія ў Раготне вядзе свой радавод з 1400 года. А цяперашні мураваны касцёл Анёлаў-Ахоўнікаў быў збудаваны ў 1840 годзе. Шмат чаго зведаў у гісторыі гэты храм-прыгажун. І пад царкву быў аддадзены пасля паўстання Каліноўскага ў 1863-м, і ў склад перароблены за савецкім часам. Кс. Віктар тлумачыць мне: "Мы з парафіянамі шмат што ўжо паспелі зрабіць. Касцёл унутры пачысцілі і пафарбавалі, вадасцёкі новыя, дах таксама пафарбавалі. Цяпер вось збіраем сродкі на рамонт фасаду. Касцёл вялікі, але гэтым летам, думаю, зробім".

Кс. Віктар трэці год працуе ў Раготне пробашчам парафіі. Але за час сваёй дзейнасці ужо зрабіў капітальны рамонт плябаніі і мае планы на касцёл.

– Гэта вялікія фінансавыя выдаткі, – кажу, – ці дапамагае хто?

– Як толькі я прыехаў у Раготна і ўбачыў усе гэтыя патрэбы, то адразу звярнуўся да біскупа Аляксандра Кашкевіча. І ён дапамог, – адказвае кс. Віктар. – Плябанія адрамантаваная шмат у чым дзякуючы менавіта дапамозе біскупа Аляксандра.

## Крадзеж і затрыманне злодзея

– Гэта той самы будынак, куды на Вялікдзень залез злодзей?

– Дакладна. Шмат шкоды ён учыніў. Акно пабіў, дзверы зламаў у мой пакой і паразбіваў усё, парастрасаў у хаце. Грошы шукаў. Ён не ўцяміў, што Пасхальная Вігілія ў каталікоў кароткая – усяго пару гадзін, не так, як у праваслаўных. Я вяртаўся з касцёла і ўбачыў, што свет дома гарыць. Котка вылецела як варам абдадзеная з хаты. Я насцярожыўся, але не здагадаўся, што ў хаце злодзей. Адчыніў дзверы, і толькі тады ўсё зразумеў. Убачыў яго ў масцы і стаў з ім змагацца. Я яму кажу: "Што ж ты мне ўсё свята сапсаваў? А ён мне: "Бацюшка, чаму Вы так рана вярнуліся?" Я яго запіхнуў у качагарку, пазваніў у міліцыю ды паклікаў суседзяў. Выявілася, што ён раней пры плябаніі дапамагаў плот будаваць, калі ў Раготне быў іншы святар. Але рэцыдывіст. Сядзеў за забойства і іншыя злачынствы.

– Ён паспеў скрасці штонебудзь?

– Так, 33 мільёны ахвяраванняў і 400 долараў. Вось гэта крыўда для парафіі! Людзі складаюць апошнія грошы, каб неяк падрамантаваць святыню, а гэты чалавек зусім сумлення не мае. Яшчэ і з нажам прыйшоў дамоў да святара! Проста ганьба!

– Дзякуй Богу, што табе шкоды не ўчыніў.

– Нож ляжаў на стале, калі я ўвайшоў. Таму ён не паспеў ім скарыстацца, хаця на следстве сцвярджаў, што не збіраўся нікога забіваць.



Ксёндз Віктар трымае ў руках маленькага папугая, які нядаўна вылупіўся з яйка.



Касцёл Анёлаў-Ахоўнікаў у Раготне.



Нядзельная Імша ў касцёле ў Раготне.

## Касцёл у Дварцы

Парафія, якую абслугоўвае кс. Віктар, вельмі разлеглая геаграфічна. Ён яшчэ даязджае ў касцёл Божага Цела ў Дварцы, у капліцы ў Данілавічах, Стараельні і Лапушне. Працы шмат, але малады святар робіць усё з энтузіязмам.

На запрашэнне кс. Віктара еду з ім на св. Імшу ў Дварэц. Спецыяльна для паездак па вёсках кс. Віктар расстараўся для парафіі "Ніву". Пакуль едзем, святар хваліць расійскі ўседарожнік: "На гэтай "Ніве" я ў любую вёску заеду, ніякія ямы не страшныя".

У Дварцы аглядаем будынак святыні. Касцёл збудаваны ў 1904 годзе ў стылі неабарока. За савецкім часам бальшавікі істотна панішчылі храм, зрабіўшы ў ім стайню. Але сёння ён адрэстаўраваны і збірае вернікаў на набажэнствы.

Пакуль размаўляем пра гісторыю парафіі, падыходзяць на св. Імшу людзі. Чуваць ветлівае "Здраўствуйте!", на якое кс. Віктар з усмешкай, але знарочыста голасна адказвае: "На вякі вечныя. Амэн!" Мне паўшэптам тлумачыць: "Я сваім парафіянам заўсёды кажу, што ў сутане ці без яе, у касцёле я ці ў горадзе, са мной трэба вітацца пакаталіцку, бо я святар. Патрошку ўжо прывыкаюць".

Св. Імшу ў Дварцы адпраўляю я. А кс. Віктар мяне зноў здзіўляе. Убачыўшы, што нікога няма да споведзі, пробашч бярэ мой фотаапарат і пачынае рабіць здымкі. Спытаўшы ў мяне, як павялічыць зум, ён адразу зарыентаваўся ў прафесійнай тэхніцы і праз хвіліну бадзёры гук люстэрка ў апараце разам з флэшам ужо напаўняе святыню. "У гэтага святара сапраўды любая справа "гарыць" у руках. – падумаў я. – Столькі энергіі ў яго і аптымізму!"

# злодзея затрымаў


Старажытны брук у Данілавічах.


Пробашч гутарыць з парафіянкамі пасля Імшы ў Данілавічах.

## Брук і танкі

Пасля св. Імшы ў Дварцы разам едзем у вёску Данілавічы. “Ніва” спраўна вязе нас праз выбоіны “гравеек”, пакуль не трапляем на старажытны вясковы брук. Паводле старажылаў, па вёсцы вайною ездзілі танкі. На бруку віднеюцца каляіны. Але ж яго ніхто не рамантаваў з тых часоў! Можна сабе ўявіць, што было б з сучасным асфальтам без рамонту ды з такой нагрузкай… У Данілавічах маленькая капліца, куды на Імшу прыходзіць каля дваццаці чалавек. Пробашч кажа, што аднаму цяжкавата ўсюды паспець, але ўжо трыццаць гадоў штонядзелі сюды прыязджае святар. Таму гэтую маленькую суполку вернікаў няма як пакінуць. Тым больш што святара тут заўсёды чакаюць і яму радыя. Жыхары Данілавічаў самастойна адрамантавалі ў 2014 годзе сваю капліцу. Бачна, што малітва, святыя сакраманты для іх не проста традыцыя, а глыбокая прага душы.

## Святарская праца і адпачынак

Пасля “працоўнага” нядзельнага дня – у святароў у сувязі з іх асаблівым характарам працы менавіта нядзеля самы напружаны дзень – вяртаемся дамоў у Раготна. Кс Віктар паказвае мне сваю асабістую статыстыку. Ён ад самога дня пасвячэнняў вядзе ўлік кожнай св. Імшы, якую адправіў, і кожнага сакраманту хросту і вянчання, якія ўдзяліў. За 9 гадоў святарства ён адправіў 5700 Імшаў, павянчаў 288 пар, пахрысціў 334 дзіцяці і пахаваў 465 чалавек.

Акрамя напружанай святарскай дзейнасці кс. Віктар умее і любіць адпачываць. На час адпачынку стараецца паехаць у пілігрымку, наведаць новыя мясціны. Аказваецца, бываў і ў Віцебскай дыяцэзіі: у Браславе, Віцебску, Паставах. Пасля рамонту ў плябаніі вельмі ўтульна, а хатнюю атмасферу святарскага дома дапаўняюць маленькія гадаванцы: у клетках ціўкаюць канарэйкі, папугаі і амадзіны. На вуліцы весела гуляюць суседскі сабачка Пушок і пробашчаў канекорса Умі.

Я застаюся яшчэ на адзін дзень у Раготне па просьбе кс. Віктара, каб дапамагчы яму ў працы. Якраз выпадае свята Звеставання, на якое ў пяці месцах чакаюць святара людзі. Акрамя таго ў парафіі памёр чалавек і пробашчу трэба пахаваць памерлага. Ёсць цудоўная магчымасць паразмаўляць з вернікамі. У гутарках з людзьмі пра маладога святара чую толькі добрыя водгукі. Спадарыня Яніна Юргель – жанчына старэйшага ўзросту – прызнаецца: “Мы ўсе дзякуем Богу за такога святара. Ён вельмі пабожны, клапатлівы і адказны. Заўсёды да нас звяртаецца з падтрымкай і аптымізмам, але таксама і патрабавальны. У нас такога ксяндза не было і, пэўна, ужо не будзе. Няхай яго сцеражэ Бог і аберагае. А мы, парафіяне, яго таксама не кінем і будзем падтрымліваць.”

Хочацца далучыцца да гэтых шчырых словаў і пажадаць кс. Віктару здзяйснення ўсіх душпастырскіх планаў і задумак. Няхай Анёлы-Ахоўнікі апякуюцца парафіяй у Раготне і яе маладым пробашчам ксяндзом Віктарам Захарэўскім.


Касцёл Божага Цела ў Дварцы.


Капліца ў Данілавічах.

Каталіцкі ВЕСНІК №4(61) красавік 2016 г.

# Айцец Аўгустын чакае вернікаў

**Журналісты "Каталіцкага Весніка" наведалі эстонскі горад Валга, які знаходзіцца на самай мяжы з Латвіяй. Эстонія – краіна, дзе пераважаюць вернікі-пратэстанты, але ёсць і каталікі. Мы наведалі парафію Святога Духа ў Валзе і паразмаўлялі з пробашчам гэтай парафіі айцом Аўгустынам Лёска.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*



**– Даўно Вы працуеце ў Эстоніі?**

– Ужо больш за дваццаць гадоў.

**– А шмат каталікоў у Эстоніі?**

– Трэба сказаць, што і жыхароў у Эстоніі не так шмат, крыху больш за мільён. А каталікоў тут недзе каля трох тысяч.

**– Ці вялікая парафія ў Валзе?**

– Парафія ў Валзе нешматлікая. На нядзельную Імшу прыходзіць чалавек пятнаццаць-дваццаць. А ў будні дні можа быць двое-тры чалавекі, а можа і нікога не быць. І тады адзін з Панам Богам размаўляю.

**– Распавядзіце пра гісторыю гэтага касцёла.**

– У пачатку XX стагоддзя гэты храм быў пабудаваны для палякаў. Тут шмат палякаў працавала на чыгунцы. Гэта было яшчэ ў часы царскай Расіі.

У савецкі час з храма зрабілі склад, потым гімнастычную залу. Пасля ў ім пацёк дах, ён стаў разбурацца. І, калі ўжо стала магчымым стварыць тут парафію, у часы незалежнай Эстоніі, тады біскуп і вернікі пастараліся, каб аднавіць гэты храм. І ў стогадовы юбілей касцёла ён быў паўторна асвечаны.

**–Вернікаў якой нацыянальнасці ў Вашай парафіі больш?**

– Тут цяжка сказаць. Ёсць і латышы, і палякі, і рускія, і эстонцы. Ёсць і беларусы. Паколькі горад размешчаны на самай мяжы, то прыходзяць вернікі і з Латвіі.

**– А на якой мове ў Вас ідзе Імша?**

– Імшу я вяду на рускай мове. Калі і прысутнічаюць эстонцы, то некаторыя чытанні раблю на эстонскай мове. І малітву "Ойча наш" чытаю на мовах тых народаў, прадстаўнікі якіх ёсць на богаслужэнні.

**– Распавядзіце крыху пра сябе.**

– Я нарадзіўся ў Польшчы, у Сілезіі, у мястэчку Ціхі. Вучыўся ў Кракаўскай семінарыі і ў 1958 годзе стаў святаром. Дзевяць гадоў я быў парафіяльным ксяндзом, а потым стаў манахам-францішканцам. І праз два гады я паехаў місіянерам у Афрыку, у Заір. Там я служыў дзевятнаццаць гадоў. А ўжо з Афрыкі я накіраваўся ў Расію, у Новасібірск. Там два гады служыў.

А ўжо з Новасібірска я прыехаў у Эстонію. Дзевятнаццаць гадоў служыў у парафіі ў Кохла-Ярве, потым два гады ў Нарве, і зараз ужо трэці год працую тут, у Валзе.

**– Як Вам працавалася ў Афрыцы?**

– Вельмі добра. Там у мяне было недзе каля дваццаці хрысціянскіх абшчын. І ў кожнай у мяне быў памочнік, які арганізоўваў жыццё абшчыны, праводзіў навучанне з кандыдатамі да хросту, да канфірмацыі. Тэрыторыя ў мяне была вельмі вялікая, я не паспяваў прыехаць кожную нядзелю ва ўсе абшчыны, таму гэты памочнік сам арганізоўваў там малітву. І хаця яна праходзіла без Эўхарыстыі, людзі слухалі Божае слова, спявалі хор. Сярод найбольш актыўных вернікаў былі выбраныя катэхісты, якія чыталі Божае слова, праводзілі казанні, дапамагалі рыхтаваць вернікаў да прыняцця святых Сакрамантаў. А калі ўжо я прыязджаў, то спавядаў людзей, праводзіў сакраманты хросту, вянчання.

І шмат было дзяцей. Вельмі шмат. Я звычайна прыязджаў на джыпе, то дзеці заўсёды мяне радасна сустракалі. Да Імшы мы вучылі з імі дзесяць Божых запаведзяў, малітву "Ойча наш". Наогул, дзеці вельмі радасна мяне сустракалі.

**– А дзе Вам найлепей было працаваць?**

– А я не параўноўваю. Усюды ёсць Касцёл, ёсць Цела і Кроў Хрыста, усюды ёсць народ Божы.

**– Як Вы ацэньваеце нядаўнюю сустрэчу Маскоўскага Патрыярха і Папы Рымскага?**

– Вельмі добра. Я лічу гэта дарам Духа Святога. І хаця не ўсе кіраўнікі царквы ставяцца да яе прыхільна, сярод простых вернікаў, на маю думку, прысутнічае разуменне важнасці гэтай сустрэчы.

**– На Вашу думку, ці ёсць будучыня ў каталіцкага Касцёла тут, у Эстоніі?**

– Гэта ў руках Пана Бога. Шмат людзей прыходзіць і кажуць, што хацелі б прыняць хрост. Але чамусьці доўга да гэтага збіраюцца. Я ўсё чакаю, чакаю…

Шмат дзяцей прыходзіць, нават тыя, якія хрысціліся ў праваслаўнай Царкве. Прыходзяць, каб па-сяброўску паразмаўляць са святаром. І будучыню я бачу ў такіх зносінах. І калі святар будзе адкрыты на такія зносіны, хоць гэтыя людзі пакуль не ўдзельнічаюць у святой Імшы, яны ўсё ж прыйдуць да Бога. Я ў гэтым бачу надзею для нашай парафіі.



# "Семінарыст на ўікэнд"




**"Стань семінарыстам на ўікэнд" – пад такім дэвізам праходзіць міжнародная акцыя для юнакоў, якія адчуваюць у сваім сэрцы пакліканне да святарства. Сёлета да гэтай акцыі далучылася Міждыяцэзіяльная духоўная семінарыя ў Пінску.**

**кс. Андрэй Рылка**, *рэктар Пінскай семінарыі*

Стаць клерыкам на ўікэнд – гэта значыць, пражыць адзін або некалькі дзён так, як жывуць, семінарысты, акунуцца ў штодзённае жыццё духоўнай установы, якая рыхтуе будучых святароў. Гэта магчымасць пражыць дзень ад пачатку і да канца так, як праходзіць яго студэнт семінарыі: ад 6.00 да 22.30 – з малітвай і спортам, вучобай і працай, духоўна і фізічна. Пабыць клерыкам. Адчуць рытм жыцця маладых юнацкіх сэрцаў, якія прагнуць быць вучнямі Хрыста, рыхтуюцца без рэшты прысвяціць сябе ратаванню людскіх душ.

Ідэя праводзіць падобныя маладзевыя акцыі ў духоўных семінарыях свету скіравана на разбурэнне шматлікіх забабонаў, страхаў і стэрэатыпаў, якія часам палохаюць маладых людзей. Святары, што займаюцца душпастырствам моладзі і пакліканняў, заўважаюць апошнім часам: ёсць шмат юнакоў, якія адчуваюць пакліканне да святарства, але баяцца, што не вытрымаюць у семінарыі. Баяцца, таму што не ведаюць. Іх палохае невядомае. Таму разнастайныя акцыі і мерапрыемствы, якія даюць магчымасць адчуць жыццё семінарыі знутры, павінны разбурыць памылковыя стэрэатыпы і паказаць прыгажосць і радасць жыцця маладых людзей, якія ўжо пераступілі парог семінарыі і з энтузіязмам вучацца ў гэтай Хрыстовай школе, каб выйсці з яе душпастырамі, которых чакае Бог і сучасны чалавек.

**Акцыя "Стань клерыкам на ўікэнд" у Пінскай духоўнай семінарыі будзе праводзіцца ў гэтым годзе 7-9 мая.** Аднак калі хтосьці з маладых людзей жадае "пабыць клерыкам" у іншы час, дзверы семінарыі адчыненыя для кожнага. Неабходна толькі патэлефанаваць у семінарыю і дамовіцца пра прыезд. Магчыма, гэта будзе той крок, які дапаможа камусьці з маладых людзей перамагчы страх, каб нарэшце выйсці насустрач Хрысту, Каторы кліча наследаваць Яго ў пастырскім служэнні.

**Кантакт:**
***вул. Леніна, 16,***
***225710, г. Пінск,***
***Брэсцкая вобл.***
***Тэл. (0165)65 41 45;***
***+375 256 044 186***
***e-mail: mvds@catholic.by***

# КАВАЛЬ

**Гэта апавяданне напісана паводле рэальных падзей, якія мелі месца ў маёй роднай вёсцы Завараты ў далёкім 1839 годзе.**

**Зміцер Лупач**

Раман адпусціў свайго памочніка дадому і выйшаў з кузні. Заканчваўся суботні сакавіцкі дзень, сонца паступова набліжалася да лесу, што сінеў на захадзе. Вясна пачынала пакрысе выцясняць зіму. На пагорках там-сям былі відаць першыя праталіны. "Хутка ўжо пачнуцца працы ў полі, прыбавіцца тады працы і ў кузні", – падумалася маладому кавалю.

Але вясна, што паволі, але ўпэўнена перамагала зіму, і заўтрашні святочны дзень не вельмі радавалі Рамана. Амаль ужо месяц як трывожныя думкі не пакідалі яго галаву. Пачалося гэта з таго, як ад айца Мікалая, які служыў у мясцовай царкве, пачуў ён, што хутка забароняць іх веру ўніяцкую і ўсіх прымусяць перайсці ў "сызму". Так сяляне называлі тады праваслаўную веру, якую гвалтам уводзілі тады на беларускіх землях новыя ўлады.

Асабліва ўзмацніўся гэты працэс пасля паражэння паўстання супраць расейскага цара, якое царскія ўлады патапілі ў крыві. Раман меў тады дванаццаць год і добра памятаў тыя падзеі, бо дапамагаў кавалю, у якога вучыўся гэтай справе, каваць зброю для паўстанцаў.

І вось нядаўна стала вядома, што цар забараняе іх веру. Іх бацюшка айцец Мікалай адмовіўся прыняць новыя парадкі і вельмі жорстка за гэта паплаціўся. Яго жонку з трыма дзецьмі кудысьці вывезлі, казалі, што ў нейкі расейскі манастыр, а сам бацюшка адправіўся на сібірскую катаргу. Дзе той далёкі Сібір, Раман не меў уяўлення, ведаў толькі, што адтуль ужо ніхто жывым не вяртаецца.

Ад свайго пана ўчора ён пачуў, што ў нядзелю прыедзе новы бацюшка, які і прывядзе іх да правільнай веры. Тым жа, хто адмовіцца перайсці ў гэту веру, пагражалі рознымі карамі. Людзі ў вёсцы, вядома, баяліся гневу і новага пана, які ўладарыў тут пасля няўдалага паўстання, і новага папа, якога яшчэ нават не бачылі. Таму ў сваёй большасці вырашылі падпарадкавацца. Праўда, знайшлося ўсё ж каля дзясятка чалавек, якія вырашылі да канца трымацца сваёй веры.

Гэтыя трывожныя думкі і не давалі пакою Раману. Крыху палохала невядомасць, а што там будзе заўтра? "Хай будзе, што будзе, але не буду я прымаць іхняй веры, хай хоць заб'юць", – амаль уголас прамовіў каваль. Ён памятаў, як айцец Мікалай распавядаў пра апосталаў, якія нават пад пагрозай смерці не выракліся Хрыста, чуў таксама ад святара і пра Андрэя Баболю, які жыў больш за сто гадоў таму, якога пазверску замучылі казакі. Замучылі толькі таму, што адмовіўся адрачыся ад сваёй веры. "Ён быў ужо стары і вытрымаў, - думаў Раман, - няўжо ж я, малады, здамся?"

І вось, калі ўжо ён збіраўся пайсці ў вёску, якая была непадалёк ад кузні, пачуўся стук капытоў. Раман прыгледзеўся і ўбачыў, як спрактыкавана закінуў ие на каня і прывязаў яго да станка. Прайшло літаральна некалькі хвілін і новая падкова была прыбітая.

– А ў пана і другая падкова ўжо дрэнна трымаецца, давайце я яе замяню.

– Ну давай, меняй, только ещё раз тебе повторяю, я никакой тебе ни пан, а господин.

Раман нічога не адказаў афіцэру, хуткім спрактыкаваным рухам зняў старую



**Абраз мучаніцтва святога Андрэя Баболі ў санктуарыі святога Андрэя Баболі ў Варшаве.**

у напрамку яго кузні скача вершнік. Было відаць, што гэта нейкі расейскі афіцэр.

– Эй, кузнец, срочно нужно коня подковать, где-то подкову потерял. Давай быстрее, – крыкнуў коннік яшчэ не пад'ехаўшы да кузні.

– Пан ахвіцэр, я ўжо і гарно загасіў, і памочніка няма. Але, можа, знойдзем падобную падкову, – адказаў Раман.

– Какой я тебе пан, я для тебя господин офицер. Понял? Испортили вас тут эти латиняне. Но ничего, завтра примете святую веру православную и не будете больше еретиками. А будете упрямиться, мои казаки живо вас уму-разуму научат.

"Заўтра пабачым", – падумаў пра сябе Раман, бо сварыцца з афіцэрам раней часу яму не хацелася, і пайшоў у кузню падбіраць падкову.

– Падводзьце каня сюды, – Раман паказаў на адмысловае прыстасаванне каля кузні. Каваль узяў вяроўку, падкову і стаў мацаваць новую.

– Ну вось і ўсё, пан ахвіцэр, гатова, ой, прабачце, гаспадзін, – сказаў Раман.

– Ловко ты, шельма, управился. Вот тебе на водку, – і вайсковец падаў кавалю пару медзякоў.

Раман падзякаваў афіцэру за яго шчодрасць і паклаў грошы ў кішэню. Коннік жа паскакаў у бок панскага палаца. "Напэўна, у пана спыніліся, – падумаў каваль, – вось і тут казакі, як і з Баболям было."

Назаўтра Раман устаў рана, па-святочнаму апрануўся, доўга маліўся перад абразамі, каб даў яму Бог такую цвёрдасць, як у свой час Андрэю Баболю, каб вытрымаць яму ўсе пакуты і не адступіцца ад сваёй веры.

Калі каваль падыйшоў да царквы, там ужо стаяла некалькі дзясяткаў чалавек. Воддаль гарцавала на конях каля трох дзясяткаў казакоў. З імі быў і той афіцэр, што прыязджаў учора ў кузню. Вяскоўцы са страхам і трывогай пагладалі на вайскоўцаў. Ніхто амаль не размаўляў, але ва ўсіх у вачах чыталася трывога і страх перад невядомасцю.

Людзі паступова падыходзілі да царквы, хутка іх стала больш за сотню. Вось пад'ехаў у брычцы новы святар, быў ён вельмі не падобны на іх айца Мікалая ні выглядам, ні адзеннем, ні паводзінамі. Ён звысоку глянуў на людзей, злёгку кіўнуўшы галавой, і пайшоў у царкву разам з трыма невядовымі людзьмі.

Хутка зазвінелі званы, і людзі сталі заходзіць у храм. Набажэнства яшчэ не пачалося, як новы поп звярнуўся да людзей: "А сейчас послушайте указ его императорского величества Николая Павловича". І пачаў чытаць. Новы святар доўга пералічваў усе царскія тытулы, бо быў ён і цар, і самадзержац, і князь... "Во колькі земляў захапілі", – падумалася Раману. Калі святар дачытаў да таго моманту, дзе было сказана, што ўніяцкая вера як варожая скасоўваецца, і царква ўніяцкая цалкам пераходзіць у праваслаўе, каваль стаў працiскацца да выхаду. Тым часам новы бацюшка абвявіў, што хутка пачнецца богаслужэнне, але перад гэтым усе павінны прысягнуць новай веры і пацалаваць крыж. Па царкве прайшоў гул, але неўзабаве людзі пачалі станавіцца ў чаргу. Раман выйшаў з царквы. З ім выйшла яшчэ каля дзясятка сялян.

Каля храма ўжо стаялі казакі, якія былі ўжо спешыўшыся. Коні іх былі прывязаны непадалёк. Яны адразу хапалі тых, хто выйшаў, валілі на зямлю і білі нагайкамі. Пару чалавек спрабавалі ўцячы, але іх дагналі на конях і прыгналі назад да царквы.

Рамана доўга не маглі збіць з ног, але калі гэта ўсё ж ім удалося, то ён атрымаў ад казакоў больш за ўсіх. Калі ён падняўся, то на царкоўным двары ўжо нікога з сялян не было, усіх загналі назад у царкву. Казакі падхапілі каваля пад рукі і пацягнулі да царкоўных дзвярэй. Калі да ўваходу заставалася некалькі крокаў, Раман рэзкім рухам атрос з рук казакоў і ўпёрся рукамі ў сцяну царквы. Колькі яны не спрабавалі ўпіхнуць каваля ўнутр царквы, ім гэта не ўдалося. Тады адзін з казакоў выхапіў шаблю і прыставіў лязо да яго горла.

– Войдёшь внутрь или зарежу, как собаку, – пракрычаў ён у вуха Раману.

– Осторожно, кровью храм запачкаешь, – крыкнуў яму іншы казак і падставіў пад шыю драўляныя начоўкі, якія стаялі пад царкоўнай сцяной.

– Отречёшься от своей поганой веры? – зноў крыкнуў першы.

– Не, – адказаў каваль і заплюшчыў вочы.

– Ладно, отпускай его. Пусть подыхает еретиком, – пачуў ён голас знаёмага афіцэра. Атрымаўшы яшчэ некалькі ўдараў нагайкай у плечы, Раман пайшоў дадому.

Так ён і стаў адзіным чалавекам у наваколлі, які так і не прыняў новую веру. Новыя гаспадары зачынілі ўсе ўніяцкія цэрквы, таму Раману прыйшлося прыняць каталіцтва лацінскага абраду і кожную нядзелю за восем вёрст хадзіць у касцёл. Але ён ніколі не шкадаваў, што так паступіў у тыя сакавіцкія дні.

Бог даў Раману працяглае жыццё. Больш чым праз дваццаць гадоў яму зноў давялося каваць косы для касінераў Каліноўскага, зноў паўстанцам не ўдалося атрымаць перамогу, зноў на роднай зямлі зазвінелі кандалы і паўсталі віселіцы...

Але ахвяра каваля не была дарэмнай. Людзі ў вёсцы паважалі каваля і памяталі пра яго ўчынак. І калі было Раману ўжо больш за васемдзясят гадоў, аб'явіў цар маніфест аб свабодзе веры. Праўда, уніяцтву так і не дазволілі аднавіцца на нашай зямлі, таму амаль усе навакольныя вёскі перайшлі ў каталіцтва. А царква засталася стаяць у вёсцы амаль без вернікаў.



# Гісторыі у Пінску прайшла

**“Пакліканне“ – часта чуеш гэты тэрмін з вуснаў святароў. Той ці іншы чалавек менавіта дзякуючы яму жыве ў хвале Бога і становіцца духоўнай асобай.**

■ **Таццяна Смоткіна**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Аякпрыходзіцьпакліканне, у якія моманты жыцця і як рэагуюць родныя пакліканых на гэта, мы высвятлялі ў Пінскай міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі падчас юбілеяў з нагоды 90-годдзя заснавання і 15-годдзя аднаўлення яе працы. Туды рэдактара газеты “Каталіцкі Веснік” разам з супрацоўнікамі рэдакцыі запрасіў асабіста рэктар Пінскай духоўнай семінарыі кс. Андрэй Рылка.

А зараз усё па парадку.

Калі заехалі ў Пінск з боку Івацэвічаў, па шчырасці, горад вялікага ўражання не зрабіў, хіба што ўразіла шырокая пешаходная зона з яе тратуарамі. А вось калі прыехалі ў стары горад, было значна цікавей. Старадаўні Пінск нечым нагадаў нам архітэктуру і вулачкі Гародні. Далей з вуліцы Леніна павярнулі на вуліцу Казіміра Свёнтака, дзе месціцца прыгожы будынак Пінскай семінарыі з прылеглым да яго саборам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў стылі барока.

**Гістарычная даведка:**

*Заснавальнікам семінарыі з'яўляецца біскуп Зыгмунт Лазінскі, які адразу пасля свайго прызначэння на Мінскую катэдру ў 1917 годзе задумаўся над стварэннем новай семінарыі. У 1918 годзе семінарыя была створана ў Мінску, аднак пасля захопу яго бальшавікамі выхаванцы былі вымушаныя з'ехаць у Польшчу.*

*Другую спробу біскуп Лазінскі распачаў у 1924 годзе, заснаваў семінарыю ў Навагрудку, які ўваходзіў у склад міжваеннай Польскай Рэспублікі. Пасля заснавання ў 1925 годзе Пінскай дыяцэзіі семінарыя пераехала ў Пінск, які таксама належаў Польшчы. Біскуп Лазінскі сам выкладаў у семінарыі біблеістыку і ўсяляк спрыяў яе развіццю. Семінарыя месцілася ў будынку былога францішканскага кляштара XVIII стагоддзя пры катэдральным саборы. З 1928 года ўжо на ўсіх шасці курсах вучыліся семінарысты.*

*У 1939 годзе Пінск увайшоў у склад БССР, і савецкія ўлады зачынілі семінарыю. Аднавіў яе працу кардынал Казімір Свёнтак толькі ў 2001 годзе.*

*За ўвесь час існавання семінарыі яе скончыла каля ста чалавек, сярод якіх кардынал Казімір Свёнтак, ксёндз Ян Васілеўскі, благаславёны ксёндз Мечыслаў Багаткевіч, расстраляны ў Глыбокім падчас Другой сусветнай вайны, і іншыя духоўныя асобы.*

Будынак семінарыі і яго ваколіцы ўразілі сваёй прыгажосцю і добраўпарадкаваннем. Цэнтральнае месца ў будынку займае капліца, дзе семінарысты праводзяць шмат часу: моляцца і разважаюць пра Святое Пісанне. Па прыездзе ў Пінскую семінарыю, адразу туды і накіраваліся, каб супольна з семінарыстамі і іншымі духоўнымі асобамі памаліцца Вяночкам да Божай міласэрнасці.

Пасля гэтага ў канферэнц-зале пазнаёміліся з прэзентацыямі дзвюх духоўных семінарый, якія прадстаўлялі іх навучэнцы. Прадстаўнікі Гарадзенскай семінарыі склалі своеасаблівую фотасправаздачу з жывымі каментарамі пра гісторыю і дзейнасць сваёй установы, а навучэнцы Пінскай зрабілі відэаролік.

Праграма была даволі насычанай разнастайнымі мерапрыемствамі, але галоўнае – гэта малітва і размова з Богам. Таму разам з біскупамі, семінарыстамі, простымі пінчанамі і мы маліліся ў капліцы і катэдры і разважалі над Святым Пісаннем падчас святой Імшы.

Асноўная ўвага тэме пакліканняў надавалася на канферэнцыі. Там выступілі з дакладамі біскупы Аляксандр Яшэўскі SDB і Юры Касабуцкі. Першы засяродзіў увагу на самім паняцці “пакліканне” і адказе чалавека на яго, а другі распавёў пра ролю сям'і і Касцёла як асяроддзя, што абудзяе пакліканне да святарства.

А потым, нарэшце, настаў той час, калі з дазволу рэктараў можна было пагутарыць з самімі семінарыстамі пра пакліканні і іх шлях да святарства. Да таго ж нам дазволілі агледзець пакоі семінарыстаў і навучальныя кабінеты.

**Першым суразмоўцам быў клерык з вёскі Палонка Баранавіцкага раёна Пінскай дыяцэзіі Андрэй Багдановіч, навучэнец пятага курса Пінскай семінарыі, які стаў нашым экскурсаводам у семінарысцкае жыццё:**

– Я доўгі час распазнаваў пакліканне. З малых гадоў мяне выхоўвалі ў веры бабуля і дзядуля, у мяне было добрае рэлігійнае выхаванне. І аднойчы я трапіў у духоўную семінарыю на дзень адчыненых дзвярэй, калі клерыкі, святары і пробашч давалі свае сведчанні. І дзякуючы ўсяму гэтаму, калі я скончыў школу, хоць і доўга вагаўся, зразумеў, што пайду навучацца менавіта ў духоўную семінарыю. Бо гэта сапраўды маё. Я зразумеў, што на гэтым месцы Бог мяне хоча бачыць, і тут я буду шчаслівы.



На той момант мая бабуля памерла, але дзядуля моцна мяне падтрымаў. Мама з татам асабліва не радаваліся. У нашай сям'і – пяцёра дзяцей: я і чатыры сястры. Таму ў таты быў довад, што адзіны сын – гэта той, хто павінен працягнуць род і захаваць прозвішча. Спачатку ён не вельмі пазітыўна ўсё гэта ўспрыняў, але вялікага супраціву не было. А потым, з цягам часу, бацькі сталі мяне падтрымліваць і маліцца за мяне.

**Дыякан Раман Страшко, парафія Божага Цела ў Нясвіжы, Мінска-Магілёўская архідыяцэзія, навучэнец 6 (апошняга) курса Пінскай семінарыі:**



– Усё распачалося вельмі даўно. У маім выпадку гэта крыху заблытаная сітуацыя, таму што я быў ахрышчаны ў праваслаўі, у дзяцінстве нават хадзіў у праваслаўную царкву. Але потым я пачаў наведваць касцёл. У той час да нас у Нясвіж прыязджала шмат клерыкаў на практыку. Яны дзяліліся сваімі хваляваннямі, сваім вопытам, тым, што ў іх жыцці значыць гэтая семінарыя. І я вось так паступова вырашыў паступаць у семінарыю, паглядзець, што гэта такое. Мне спадабалася, і я пайшоў туды.

Першапачаткова майму тату было вельмі складана гэта ўспрыняць, асабліва ў першы год майго навучання. Калі я прыязджаў дадому,



Пакой семінарыста ў Пінскай семінарыі.

# паклікання

## агульнабеларуская сустрэча семінарыстаў

ён перажываў і заўжды мне казаў, каб я паступаў у якуюнебудзь іншую вышэйшую ўстанову.

Маці больш спакойна паставілася да гэтага, хоць я і адзіны сын у сям'і. Але потым і мой бацька пачаў моцна мяне падтрымліваць.

**Дыякан Дзяніс Бразінскі, г. Смаргонь, парафія Святога Міхала Арханёла, навучэнец Гарадзенскай духоўнай семінарыі:**



– Сваё пакліканне я адчуў у вельмі раннім узросце: мне было тады толькі 10 гадоў. Дакладна нават памятаю гэты момант і дзень тыдня, калі яно прыйшло.

Гэта быў аўторак, за пятнаццаць хвілін да святой Імшы штосьці адбылося ў маёй галаве, што змяніла мой светапогляд. Я вельмі захацеў стаць міністрантам, да гэтай хвіліны пра гэта ніколі не думаў. І пасля таго, як стаў міністрантам, пачаў цікавіцца святарскім жыццём. Першы святар, які паўстаў на маім жыццёвым шляху, быў ксёндз Алег Жураўскі. Тады ён быў вікарыем у нашай Смаргонскай парафіі. Ён звяртаў на мяне ўвагу ўжо тады і заўсёды браў мяне і "па калядзе", і на іншыя святы, у розныя паездкі і падарожжы. І ўжо ў трынаццаць гадоў для мяне не стаяла пытанне: кім я хачу быць.

У сям'і я адзіны сын. Мая сям'я, на жаль, няпоўная, мы жывём удваіх з маці. Напэўна, для яе недзе ў сэрцы было цяжка ўсё гэта ўспрыняць. Тое, што адзіны сын ідзе ў семінарыю, ён не будзе мець сям'і, а ў яе не будзе ўнукаў.

Людзі пастаянна задаюць мне гэтае пытанне, калі я распавядаю пра сваё пакліканне: як успрынялі родныя маё рашэнне? Канешне, маці было цяжка, аднак яна гэтага не паказвала і заўсёды малілася і падтрымлівала мяне.

**Дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB пра пакліканне:**

– Пакліканне дае нам Бог, а чалавек, распазнаўшы яго, адказвае. Таму варта ў першую чаргу зразумець, што пакліканне да святарскага служэння вельмі моцна адрозніваецца ад выбару якой-небудзь іншай прафесіі



па той прычыне, што Бог кліча чалавека аддаць усю сваю асобу ў паўнаце, а ў прафесіі чалавек абірае толькі пэўны накірунак свайго ўпадабання альбо сваёй здольнасці. Мы не ведаем, каго Бог кліча і якім спосабам, ведае гэта толькі Ён сам і тая асоба, якая ў сваім сэрцы адчувае гэты заклік, а ў сваіх думках разважае пра тое, ці не адказаць на голас Пана.

**Пра пакліканні рэктар Пінскай міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі кс. Андрэй Рылка:**



– Існуе праблема з адказам моладзі на пакліканне. Падчас розных спатканняў, якія мы праводзім для моладзі, бачым, што вельмі шмат маладых людзей, якія задумваюцца і разважаюць пра тое, ці стаць святаром. Значыць, нешта ў сэрцы там адчуваюць. Толькі ў нашай частцы свету, які называюць Заходнім ці Еўрапейскай цывілізацыяй, мы бачым, што ёсць шмат страхаў сярод моладзі. А ці спраўлюся? А гэта ж на ўсё жыццё. Існуе вельмі шмат страхаў, таму нямногія адважваюцца прыйсці ў семінарыю.

Страх вернасці, страх трываласці. Гэта тыя ж самыя страхі, што і перад сямейным жыццём. У наш час шмат у свеце разводаў, і маладыя людзі, якія ідуць на сужэнства, нават баяцца ўзяць шлюб, нават часам баяцца распісацца, жывуць "спрабуючы". А ідучы да святарства, ведаем, што там няма такой "спробы". І таму баяцца, то бок, баяцца прыняць рашэнне на ўсё жыццё.

Я б не казаў, што іх палохае цэлібат, іх палохае вернасць і трываласць, і што трэба прыняць рашэнне на ўсё жыццё. А сучасны свет ад гэтага адварочваецца і прапаноўвае іншы шлях: захочаш – пажывеш, тады разыдзешся і г.д. А з Богам разводу няма.

Галоўнае, каб маладыя людзі, якія адчуваюць пакліканне, не баяліся ісці гэтым шляхам і каб мелі добрых памочнікаў, якія б дапамаглі ім дайсці да святарства, а пасля рэалізаваць сваё пакліканне на хвалу Бога і для збаўлення людзей.

У гэтым рэпартажы мы размаўлялі пра пакліканне. Менавіта яно прыводзіць маладых людзей да навучання ў духоўнай семінарыі, а потым спрыяе далейшаму стаўленню ў якасці духоўнай асобы.







Каталіцкі ВЕСНІК

№4(61)
красавік 2016 г.

# Чытачы "Каталіцкага Весніка" пра сустрэчу з Нікам Вуйчычам



**15 красавіка на "Мінск-Арэне" выступіў вядомы аўстраліец, хрысціянскі прапаведнік, народжаны з рэдкім захворваннем, якое прыводзіць да адсутнасці рук і ног.**

**Сваімі ўражаннямі ад сустрэчы са знакамітым прапаведнікам дзеляцца чытачы "Каталіцкага Весніка".**

*Падрыхтавала Ірына Грэйць*



**Алеся Білюк:**
– Гэта была доўгачаканая сустрэча. Як толькі я ўбачыла афішу,ведала што пайду туды за натхненнем і дабрынёй Ніка Вуйчыча. Яго энергетыка сапраўды зараджае! Хочацца рабіць дабро, дапамагаць людзям спраўвай і ўсмешкай, добрым словам, а ў гэты час быць шчаслівым! На пытанне Вуйчыча "Хто Вы такія? І чаго Вы хочаце?", я знайшла адказ адразу! Некалькі тыдняў таму я сустрэла адну дзяўчыну, з якой сядзела ў чарзе каля гадзіны. Я звярнула на яе ўвагу, мне падалося, што ў яе нейкі сум у вачах. І пазней мы разгаварыліся. Пачалася размова з таго, што, як заўсёды, усе спяшаюцца. Яна спяшалася таму, што дома трое дзяцей, я спяшалася таксама да сваіх трох. І здавалася, што мы роўныя. Але крыху пазней я даведалася, што трэцяе дзіця, двухгадовая дачка ў яе інвалід з дыягназам ДЦП і кошт лячэння каля 80 тыс. даляраў. У той момант я зразумела, па якой прычыне быў сум у вачах гэтай прыгожай маладой жанчыны. Калі мы пачалі гаварыць пра гэта, ледзь стрымлівалі слёзы. Так хацелася дапамагчы, падтрымаць. Я пра гэтую сустрэчу не забывала ні дня. І вось учора Нік мне нагадаў, што сапраўды я хачу!!! Аддаць свой час гэтаму дзіцяці, сілы, паспрабаваць дапамагчы ў зборы грашовых сродкаў на лячэнне. Дапамагаць бязвыплатна, дарыць сваю ўсмешку і дабрыню.



**Таццяна Дзегцярова:**
– Нік Вуйчыч – гэта вельмі моцны, духоўны, светлы чалавек. Яго выступ адбыўся на адным дыханні, таму, што хацелася пачуць і ўвабраць кожнае слова сказанае Нікам. Людзі, слухаючы яго гісторыю, плакалі і смяяліся, бо ён вельмі вясёлы і любіць пажартаваць над сабой. Ён распавядаў сваю жыццёвую гісторыю: пра стanaўленне яго як прамоўцы, пра сваю веру, пра сваю сям'ю. Мне здаецца, людзям, якія страцілі ўсялякую надзею і веру, трэба абавязкова паслухаць яго. Я ўпэўнена, што большасць зменіць сваё стаўленне да жыцця!!!



**Марыя Паўлючкова:**
– Сустрэча з Нікам Вуйчычам была маёй марай даўно. Калі я толькі даведалася пра тое, што ён прыязджае ў Беларусь, я адразу зразумела, што абавязана туды схадзіць. Сустрэча прайшла на адным дыханні. Усе слухалі яго з вялікім задавальненнем (гэта было відаць па іх тварах). Ён прымушае задумацца людзей аб іх жыцці, каштоўнасцях, прыярытэтах. Нік сваім прыкладам даказаў, што ніколі не трэба здавацца. Сустрэча мне вельмі спадабалася і я б з задавальненнем схадзіла яшчэ раз.



**Сяргей Мацієўскі:**
– На сустрэчы з Нікам Вуйчычам кожны пачуў тое, што прагнуў праз яго сказаць Бог. Мяне чамусьці кранулі словы, якія ён сказаў пра свайго бацьку: "ён хворы на анкалогію, але ў яго вачах спакой, бо ён дакладна ведае, што на зямлі мы пілігрымы." Яшчэ падчас яго прабывання на сцэне закралася думка: калі гэты абмежаваны фізічна чалавек шчаслівы, то і я павінен спрабаваць зрабіць шчаслівымі сям'ю і сябе.



**Сям'я Максіма і Алены Бодзікавых:**
– На выступленні Ніка Вуйчыча было шмат розных людзей: кампаніі, якія займаюцца продажам, людзі з абмежаванымі магчымасцямі, вернікі розных канфесій. Кожны з іх прыйшоў са сваёй мэтай і кожны пачуў словы, скіраваныя менавіта для яго. Мы (я і Алена) прыйшлі проста, каб паглядзець на гэтага незвычайнага чалавека. Нават, калі б гэтая сустрэча цягнулася 10 хвілін, мы б атрымалі тое, за чым прыйшлі. Нік расказваў пра рознае, гэта не была пропаведзь і ён казаў не толькі пра Бога, але, нам здаецца, што ягоная гісторыя, гэта і ёсць гісторыя пра Бога. "У Бога ёсць план у дачыненні да Вас, у дачыненні кожнага з Вас". "Калі Бог вырашыў зрабіць чалавека без рук і без ног рукамі і нагамі любові, то і Вы зможаце стаць кім заўгодна, межаў няма". "Калі Вы чакаеце цуда, і цуд не адбываецца ў вашым жыцці, Вы можаце самі стаць цудам для кагосьці". Нік – гэта чалавек, які сам стаў цудам для іншых людзей. І мы вельмі радыя, што змаглі прычыніцца да гэтага цуда.



# 5 гадоў за плячыма

## На пытанні адказваюць супрацоўнікі “Каталіцкага Весніка”

**5 красавіка “Каталіцкі Веснік” адзначыў свой 5-цігадовы юбілей. З гэтай нагоды супрацоўнікі рэдакцыі адказалі на наступныя пытанні.**

*Гутарыла Ірына Грэйць*



**– Які фотаздымак найбольш падабаецца і чаму?**

**– Марына Сінкевіч, фатограф:**

– За тры гады маёй працы фотаархіў атрымаўся дастаткова вялікі. І выбраць адзін, найбольш улюбёны фотаздымак сярод звыш 30 тысяч – гэта дастаткова складана. У кожнай пілігрымцы, урачыстасці, рэпартажы, інтэрв'ю ці простым асвятленні падзеі з жыцця пэўнай парафіі заўсёды знойдзецца тое фота, якое будзе бліжэй да сэрца. Звычайна гэта твары людзей з эмоцыямі: радасць, здзіўленне, засяроджанне на малітве, увага, роспач, неспакой ці проста звычайная стомленасць.

Кожны раз перад тым, як проста націснуць на кнопку, спачатку шукаю асобу ці пэўны момант. Часам нават некалькі хвілін можа спатрэбіцца, каб «схапіць» аб'ектывам фотакамеры той кадр, які пасля захаваецца ў памяці карыстальнікаў CatholicNews.by.

Асвятляць падзеі ў Каталіцкім Касцёле – вельмі адказная справа. Праз фотаздымкі чытач акунаецца ў пэўную сітуацыю і вачыма фотакора бачыць тое, што на свае вочы ўбачыць не змог.



**– Рэчы, якія неабходныя для ажыццяўлення якаснай дзейнасці тэхнічнага рэдактара?**

**– Зміцер Лупач, тэхнічны рэдактар:**

– Для якаснай працы тэхнічнага рэдактара трэба добрая тэхніка, якую мы зараз маем, трэба мець паняшканне рэдакцыі, бо мы тры гады працавалі без гэтага. Яшчэ патрэбны добры калектыў і ўзаемаразуменне ў ім. Гэта таксама, на маю думку, у нас ёсць. Тут трэба адзначыць, што ў немалой ступені гэта заслуга нашага галоўнага рэдактара ксяндза Віктара Місевіча. Дзякуючы яму наша газета працягвае развівацца ў наш няпросты час, калі людзі ўжо не хочуць наогул нічога чытаць. А яшчэ трэба жаданне працаваць, якое, дзякуй Богу, не толькі не знікла за пяць гадоў, а стала яшчэ больш моцным.



**– Што для Вас “Каталіцкі Веснік”?**

**– Кс. Віктар Місевіч, галоўны рэдактар:**

– Газета “Каталіцкі Веснік” для мяне – гэта не проста медыйны праект і нават не проста праца ў рэдакцыі. Газета – гэта як парафія. Гэта вялікая супольнасць. Я адчуваю выразную сувязь з нашымі чытачамі праз іх тэлефанаванні, лісты ці проста размовы пры сустрэчы. Зрэшты, некаторыя рубрыкі ў газеце з'явіліся менавіта па прапанове нашых чытачоў. Таму мне здаецца, што ў рэдактарскай працы я рэалізую не толькі свой журналісцкі патэнцыял, але і душпастырскі. І сёння дзякую Богу за гэтую ўнікальную магчымасць працы ў газеце ў якасці рэдактара.



**– Сітуацыя, якая найлепш запомнілася?**

**– Леанід Юрык, відэааператар:**

– Некалькі гадоў таму ўзнікла ідэя развіваць сайт нашай газеты. Сучасны сайт нельга ўявіць без відэаматэрыялаў. А для гэтага патрэбна добрая тэхнічная база, якая дзякуючы намаганням нашага галоўнага рэдактара ў нас з'явілася. Зараз нас ведаюць амаль па ўсёй Віцебскай дыяцэзіі, і не толькі... Мы цяпер здымаем і ў Гродзенскай, і ў Мінскай, і ў Пінскай дыяцэзіях, нават з'ездзілі ў Эстонію. Самай цікавай, на маю думку, была паездка ў Мядзел, калі мы рабілі рэпартаж пра Кальварыю. Мы тады прайшлі з малітвай разам з Папскім Нунцыем арцыбіскупам Клаўдыё Гуджэроці не адзін кіламетр. І хаця мне трэба было ўвесь гэты час працаваць з камерай, стомленасці ад не адчувалася. А яшчэ я спадзяюся, што мне ўдасца зняць прыезд Папы ў Беларусь.

**– Назавіце памылкі, якія за час існавання“Весніка” паўтараліся найчасцей?**

**– Юрась Бабіч, карэктар:**

–Найчасцей у лістах назіраюцца памылкі, звязаныя з уплывам рускай мовы. Не сакрэт, што абсалютная большасць чытачоў, карэспандэнтаў думае па-руску, а потым спрабуе запісаць фразу, сказ па-беларуску. І аўтаматычна пераносяць на беларускамоўную глебу марфалагічныя, сінтаксічныя ды лексічныя асаблівасці рускай мовы, што па-беларуску глядзіцца зусім не натуральна. Колькі прыкладаў тыповых памылак: вялікае дзякуй усім (трэба: вялікі дзякуй); падзякавалі святара (трэба: падзякавалі святару); пробашч сам даглядае за кветкамі (трэба: сам даглядае кветкі); выправіліся за новымі ўражаннямі (трэба: выправіліся па новыя ўражанні); веруючыя дапамагаюць святару (трэба: вернікі дапамагаюць святару); парафіяне прыгатаваліся да сустрэчы біскупа (трэба: парафіяне падрыхтаваліся да сустрэчы біскупа) і інш.

Але варта адзначыць, што ўвогуле чытачы Весніка, мясцовыя карэспандэнты даволі добра валодаюць беларускай літаратурнай мовай. А названыя тыповыя памылкі заўважаюцца, хутчэй, прафесійнымі лінгвістамі, а не шараговымі чытачамі. Зрэшты, на павышэнне культуры беларускай мовы ўвогуле і ў нашым выданні ў прыватнасці якраз і скіраваная адпаведная моўная рубрыка, што выходзіць у кожным нумары «Каталіцкага Весніка».



## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Якія рубрыкі “Каталіцкага Весніка” Вам найбольш падабаюцца?**




**Усяго апытаных – 138 чалавек**

## Марыя – Ты суцяшэнне

**Словы Марыі Ючкавіч** **Музыка Ганны Шакола**




2. Як жа пакуты Твае невымерны!
Мукі Хрыста прад Тваімі вачыма!
Волі Айца Свайго Сыне Твой верны,
У несмяротнасць Ён брамы адчыніць.
Прыпеў.

3. Перад цярпеннем Езуса, людзі,
Станем у смутку мы на калені.
Езус, Марыя, славіць Вас будзем,
Вам – нашы малітвы і пакланенне.
Прыпеў.

# Каляндар на май



**Май у Каталіцкім Касцёле асаблівым чынам прысвечаны ўшанаванню Найсвяцейшай Панны Марыі. На працягу ўсяго месяца вернікі збіраюцца ў касцёлах, а таксама каля каплічак і прыдарожных фігураў Маці Божай, каб разам маліцца, просячы заступніцтва Марыі.**

**3 мая – успамін апосталаў Філіпа і Якуба.**

У пераліку апосталаў Філіп з'яўляецца пятым. Ён быў вучнем святога Яна Хрысціцеля і паходзіў з Бэтсаіды, што на Генісарэцкім возеры, дзе працаваў рыбаком. Там яго сустрэў Езус і паклікаў у супольнасць дванаццаці апосталаў. Пасля ўваскрасення Хрыста Філіп спачатку вёў місіянерскую дзейнасць у сябе на радзіме, а пазней накіраваўся ў Фрыгію (Малая Азія), дзе навярнуў і ахрысціў шмат паганаў. Там каля 80 г. ва ўзросце 87 гадоў апостал прыняў мучаніцкую смерць: быў прыбіты да крыжа і закіданы камянямі.

Якуб Меншы (Малодшы) быў сынам Клеафаса і Марыі, сястры Найсвяцейшай Панны Марыі. Розныя крыніцы называюць яго таксама першым біскупам Ерусаліму. У 62 г. першасвятар Анна асудзіў Якуба на смерць, і апостала скінулі са сценаў святыні, пасля чаго яго дабіў нейкі гарбар. Рэліквіі абодвух святых спачываюць у Рыме, у базыліцы Дванаццаці Апосталаў. Святыя Філіп і Якуб лічацца апекунамі капялюшнікаў, крамнікаў, гарбароў.

**5 мая – урачыстасць Унебаўшэсця Пана.**

Пасля свайго ўваскрасення Езус Хрыстус з'яўляўся сваім вучням, а праз 40 дзён на іх вачах узнёсся на неба з Аліўнай гары. Азначэнне "Унебаўшэсце Пана" паходзіць з апісання, пераказанага св. Лукой у "Дзеях Святых Апосталаў" (Дз 1, 9-11). Урачыстасць Унебаўшэсця Хрыста ранні Касцёл злучаў з таямніцай Спаслання Святога Духа на Апосталаў. Гісторыя літургіі ведае гэтую ўрачыстасць з IV ст. Гэта вялікае хрысціянскае свята, таму Касцёл заклікае ўсіх вернікаў устрымацца ад выканання цяжкай працы.

**13 мая – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Фацімскай.**

У 1917 годзе ў невялікай вёсцы Фаціма, якая знаходзіцца ў гарах Партугаліі, тром пастушкам – Францыску Марто, Жасінцы Марто і Луцыі Душ Сантуш – аб'явілася прыгожая Панна, "Якая ззяла ярчэй за сонца". Гэта была Найсвяцейшая Панна Марыя. Багародзіца аб'яўлялася дзецям кожны трынаццаты дзень месяца да кастрычніка таго ж года і падчас кожнага аб'яўлення прадказвала гісторыю чалавецтва ў XX стагоддзі, у прыватнасці, перасклед Касцёла і яго адраджэнне.

**14 мая – успамін св. Мацвея, апостала.**

Да паклікання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме, горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя — Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпце і Эфіопіі. Там ім былі здзейснены шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з'яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.

**15 мая – Спасланне Духа Святога (Пяцідзясятніца).**

Гэта адно з самых старажытных святаў Каталіцкага Паўсюднага Касцёла. Спасланне Духа Святога – успамін першага дня апостальства, гэта дзень нараджэння адзінага Касцёла. Урачыстасць адзначаецца два дні. Другі дзень (16 мая) святы Айцец, Папа Рымскі Павел VI, устанавіў святам Марыі – Маці Касцёла. У гэты дзень людзі ўпрыгожваюць бярозавымі дрэўцамі касцёл, дамы, памяшканні, кватэры.

**16 мая – успамін св. Андрэя Баболі – апекуна Пінскай дыяцэзіі.**

Святога пакутніка за яго місіянерскую дзейнасць называюць "Апосталам Палесся" і "Пінскім апосталам". Святы Андрэй Баболя нарадзіўся ў 1591 годзе, а ў 1611- ым уступіў у Таварыства Езуса (езуітаў). Пасля навучання ў Віленскай езуіцкай акадэміі і святарскага пасвячэння быў накіраваны на душпастырскую працу. З 1636 года працаваў сярод уніятаў, узмацняючы іх у каталіцкай веры. Схоплены праваслаўнымі казакамі, ён быў жорстка закатаваны ў Янаве Палескім (сёння Іванава) 16 мая 1657 г.

**19 мая – свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара.**

Прапанова ўвесці гэтае свята зыходзіла ад Папы Бэнэдыкта XVI у адказ на запыты шматлікіх біскупаў і манаскіх супольнасцяў з усяго свету. Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі падчас пасяджэння 11 снежня 2012 г. прыняла рашэнне пра ўвядзенне гэтага свята.

**22 мая – урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы.**

Вера ў адзінага Бога ў трох асобах з'яўляецца адным з самых характэрных элементаў хрысціянства. У ніякай іншай рэлігіі гэтая таямніца не выступае прадметам веры. Існаванне Тройцы – дагмат нашай веры. Мы б ніколі не дайшлі да гэтага толькі чалавечым розумам. Пра гэта нам аб'явіў Езус Хрыстус. Асобнае свята ў гонар Святой Тройцы ў літургіі з'явілася параўнальна позна, у адзінаццатым стагоддзі. У 1334 годзе Папа Ян XXI распаўсюдзіў яго на ўвесь Касцёл. Святы Руперт, ігумен з Отабойрэна (каля 1180 г.), ведае пра гэта свята і тлумачыць, чаму яно святкуецца ў наступную нядзелю пасля Пяцідзясятніцы: "Таму што неўзабаве пасля спаслання Святога Духа праўда Хрыста і хрост, які Ён загадаў удзяляць у імя Айца, і Сына, і Святога Духа, былі распаўсюджаны па ўсім свеце. Таму гэтая ўрачыстасць з'яўляецца прыгожым закрыццём цыклу выратавання".

**26 мая – урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста.**

Божае Цела – распаўсюджаная назва ўрачыстасці Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста, якая адзначаецца ў чацвер пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы, таму што ў чацвер Езус Хрыстус устанавіў сакрамант Эўхарыстыі (Вялікі Чацвер). У цэлебрацыі ўрачыстасці Божага Цела Касцёл складае падзяку Збаўцу за дар Найсвяцейшага Сакраманту, у якім Ён Сам прабывае са сваім народам. У гэты дзень або ў наступную пасля яго нядзелю адбываецца працэсія, у каторай Найсвяцейшы Сакрамант з пашанаю нясуць па вуліцах гарадоў і вёсак.

**31 мая – свята Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Святкаванне Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі мае сярэднявечнае паходжанне. Свята адзначалася францішканскім ордэнам яшчэ да 1263 года, калі яно было прапанавана св. Банавентурам. Дзякуючы ўплыву з боку францішканскага ордэна свята распаўсюджвалася, але афіцыйна зацверджана Касцёлам было толькі ў 1389 годзе па загадзе Папы Урбана VI.

# Святая Уршуля Ледухоўская

## *(Успамін 29 мая)*

**Адна з кніг, прысвечаных святой Уршулі і сёстрам-уршулянкам, называецца "Амазонкі Бога". Гэта назва добра адлюстроўвае жыццёвы настрой і дзейнасць будучай святой, а таксама ордэна, які яна заснавала.**

**а. Андрэй Сідаровіч MIC**

Народжаная ў арыстакратычнай сям'і Ледухоўскіх у другой палове XIX стагоддзя, Уршуля з маленства насычалася культурнымі, патрыятычнымі і велікасвецкімі традыцыямі, але перадусім – духам служэння Богу і чалавеку. Сям'я Ледухоўскіх незвычайная. Старэйшая сястра Уршулі – Марыя Тэрэза, апостал Афрыкі, беатыфікаваная ў 1975 г. Малодшы брат Уладзімір шмат гадоў кіраваў ордэнам езуітаў. Яшчэ адзін брат, Ігнацый, – чалавек вялікай веры, быў генералам польскай арміі.

Атрыманае выхаванне паслужыла штуршком для стварэння ўласнай унікальнай педагогікі. Яна грунтуецца на думцы, што трэба з маленства стварыць умовы, каб дзіця прыйшло да Бога. Святая Уршуля прысвяціла жыццё выхаванню дзяцей і моладзі. Лічыла выхаванне адным з найважнейшых евангелізацыйных заданняў. Менавіта таму нязломна, як сапраўдная амазонка, служыла іншым: у Пецярбурзе, Скандынавіі, Польшчы, адкрываючы дзіцячыя садкі, школы, інтэрнаты для дзяцей і моладзі.

Сучаснікі ўспамінаюць, што Уршуля праяўляла неверагодную добрыню да людзей і была чалавекам усмешкі. Вельмі часта на абразах яе малююць з кветкамі сланечніка. Сланечнік – сімвал дабрыні, усмешкі, духоўнага супакою – аздабляе таксама капліцу і саркафаг, у якім пахавана святая.

Святая Уршуля – апякунка дзяцей і моладзі, настаўнікаў і выхавальнікаў, а таксама бацькоў, якім неабыякавыя справы выхавання ўласных дзяцей.

> **"Святая Уршуля прысвяціла жыццё выхаванню дзяцей і моладзі"**

Сёння святая Уршуля вядомая ва ўсім свеце як вялікая заступніца ў малітве. У гэтым пераканаўся і 14-гадовы Даніэль. Аднойчы ён дапамагаў мясцовым сёстрам-уршулянкам – электракасілкай касіў газоны ў парку. Як пазней высветлілася, у прылады былі пашкоджаны правады. Гэтая акалічнасць у сукупнасці з вільготным надвор'ем прывяла да бяды: калі Даніэль адключаў электрапрыладу, яго ўдарыла токам. Ён не мог самастойна адняць руку ад крыніцы электрычнасці, пачаў траціць прытомнасць і меў яснае разуменне, што памірае. Нібы ў тумане ён бачыў, як да яго падыходзіць сястра-уршулянка, але яе твару разглядзець не мог. Яна адарвала хлопца ад электрычнасці і знікла. Ні адной нават аддалена падобнай сястры ў кляштары не было. Сам Даніэль, яго сям'я і сёстры ўбычылі ў гэтым здарэнні надзвычайнае дзеянне ласкі Божай і заступніцтва святой Уршулі.

# На май прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскіх пасвячэнняў у наступных святароў і біскупаў:

**1 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Андрэй Кулік** *(Дзеркаўшчына)*, **кс. Леанід Мозгель** *(Павяцце)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*, **кс. Эдвард Сінкевіч SCJ** *(Гродна)*.

**2 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Чэслаў Курэчка** *(Росіца)*, **кс. Андрэй Кваціэнскі** *(Смалявічы)*.

**3 мая** – імяніны адзначаюць **біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі; **біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч**, **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Новалукомль)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Аляксандр Дулінец** *(Падсвілле)*, **кс. Аляксандр Жарнасек** *(Орша)*, **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*, **кс. Аляксандр Рагіня** *(Чад, Афрыка)*, **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*, **кс. Аляксандр Адамовіч** *(в. Нача)*, **кс. Аляксандр Баклажэц** *(Навагрудак)*, **кс. Аляксандр Лебядзевіч** *(Іўе)*, **кс. Альгірдас Паўлікас** *(в. Адэльск)*, **кс. Аляксандр Пятровіч** *(Гродна)*, **кс. Аляксандр Раманоўскі** *(Гродна)*, **кс. Аляксандр Рудзевіч** *(Тракелі)*, **кс. Аляксандр Севасцьяновіч** *(Мір)*, **кс. Аляксандр Сасноўскі** *(Гродна)*, **кс. Аляксандр Барыла** *(Вілейка)*, **кс. Аляксандр Тарасевіч**, **кс. Алег Кудэрка** *(Гродна)*, **кс. Алег Кананові**ч, **кс. Алег Жураўскі SDB** *(г. Смаргонь)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*, **кс. Аляксандр Фядотаў SCJ** *(Гродна)*.

**5 мая** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Казімір Велікаселец**, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі.

**7 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Роўба CRL** *(в. Вавёрка)*, гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Вацлаў Суткоўскі SAC** *(Талачын)*.

**8 мая** – імяніны адзначае **кс. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*, **кс. Станіслаў Краўчанка SDB** *(Смаргонь)*, **кс. Станіслаў Лабан** *(в. Бенякoні)*, **кс. Станіслаў Пытэль CSMA** *(в. Васілішкі)*, **кс. Станіслаў Садоўскі OFMConv** *(в. Поразава)*, **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(г.п. Воранава)*, **кс. Станіслаў Вашкевіч**, **кс. Станіслаў Лугоўскі SDB**, **кс. Станіслаў Станеўскі CSSR**; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Лешэк Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*, **кс. Павел Кнурэк** *(Лынтупы)*, **кс. Войцех Вальчына MSF** *(Плешчаніцы)*, **кс. Віталь Бандаронак OFMCap** *(Слонім)*, **кс. Людвік Станішэўскі** *(в. Гняздо)*.

**9 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Агель SChP** *(Ліда)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Андрэй Вітэк SAC** *(г.п. Воранава)*.

**10 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Антоні Абухоўскі** *(г.п. Сапоцкін)*, **кс. Валерый Спірыдон** *(Гродна)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Пётр Кубіцкі** *(Талачын)*, **кс. Генадзь Рамашка SAC** *(в. Германішкі)*.

**11 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юзаф Гэнза CSsR** *(Гродна)*.

**12 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Андрэй Агель SChP** *(Ліда)*, **кс. Станіслаў Скрыдалевіч** *(г.п. Воранава)*.

**13 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Андрэй Таўрук** *(Іказнь)*, **кс. Пётр Марцінец** *(в. Азёры)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**, **кс. Вячаслаў Барок** *(Віцебск)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*, **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **кс. Валянцін Станкевіч** *(в. Волма)*, **кс. Збігнеў Драгула CSMA** *(в. Старыя Васілішкі)*, **кс. Ян Асіповіч SChP** *(Ліда)*.

**14 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Юзаф Пятушка MIC** *(Барысаў)*, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Дуброўна)*.

**15 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Віктар Місевіч** *(Дзеркаўшчына)*, **кс. Генадзь Рэйшэль**, **кс. Ігнат Санюта** *(Ахрэмаўцы)*, **кс. Міхаіл Татарэнка** *(Лужкі)*.

**16 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Павел Урбан** *(Гродна)*, **кс. Дзмітрый Сядлецкі** *(в. Всялюб)*; імяніны адзначаюць **кс. Андрэй Таўрук** *(Іказнь)*, **кс. Андрэй Кваціэнскі** *(Смалявічы)*, **кс. Андрэй Сіповіч**; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*, **кс. Ежы Ноцунь SCJ** *(Барадзенічы)*, **кс. Зянон Рамейка SCJ** *(г.п. Астрына)*, **а. Віталь Слука SChP** *(Шчучын)*.

**17 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Кшыштаф Мянкіна** *(Мёры)*, **кс. Ежы Грыцко ISCh** *(в. Першамайск)*.

**18 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Паўлюкевіч** *(в. Граўжышкі)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Аляксандр Рагіня** *(Чад, Афрыка)*, **кс. Віктар Барысевіч OFMCap** *(в. Ліпнішкі)*, **кс. Багуслаў Вуйтовіч OFMConv** *(в. Гальшаны)*.

**19 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Шанчук** *(в. Гожа)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Казімір Акушка** *(Плюсы)*, **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*, **кс. Ігар Анісімаў** *(Слонім)*, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*, **кс. Павел Эйсмант** *(Ваўкавыск)*, **кс. Антоні Грэмза** *(Гродна)*, **кс. Ежы Ясевіч** *(Гродна)*, **кс. Ян Кузюк** *(в. Грандзічы)*, **кс. Яцэк Маркель CMF** *(г.п. Зэльва)*, **кс. Віктар Мыслюк**, **кс. Ежы Павайба** *(г.п. Сапоцкін)*, **кс. Ян Занеўскі** *(Квасоўка)*.

**20 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Андрэй Кваціэнскі** *(Смалявічы)*, **кс. Станіслаў Садоўскі OFMConv** *(в. Поразава)*, **кс. Ян Залога** *(в. Жырмуны)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*, **кс. Зянон Шчонхар MS** *(Відзы)*, **кс. Сяргей Ангур TChr** *(в. Геранёны)*, **кс. Дзмітрый Лабкоў** *(Гродна)*, **кс. Артур Малафей** *(Гродна)*, **кс. Дзмітрый Несцер** *(в. Геранёны)*, **кс. Ян Рушніцкі** *(в. Каробчыцы)*, **кс. Дзяніс Шмыгін** *(в. Міжэрычы)*.

**21 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **а. Томаш Міка OP** *(Віцебск)*, **кс. Цэзары Міх** *(Скідаль)*, **кс. Андрэй Роўба CRL** *(в. Вавёрка)*.

**22 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*, **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*, **кс. Леанід Нясцюк** *(Гервяты)*.

**23 мая** – гадавіну біскупскіх пасвячэнняў адзначае **біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч**.

**24 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Леанід Нясцюк** *(Гервяты)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Аляксандр Баклажэц** *(Навагрудак)*, **кс. Сяргей Якімовіч** *(в. Мураваная Ашмянка)*, **кс. Антоні Казлоўскі** *(в. Вішнева)*, **кс. Леон Ладыш** *(в. Войстам)*, **кс. Казімір Мурава SDB** *(в. Жупраны)*, **кс. Ян Рэйшэль** *(г.п. Жалудок)*, **кс. Анатоль Захарэўскі** *(в. Міхалішкі)*.

**25 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Міхал Васількевіч** *(в. Ізабелін)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**, **кс. Андрэй Бурак** *(в. Лаздуны)*, **кс. Віталь Цыбульскі CSsR** *(Іўе)*.

**26 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **а. Шымон Фарайтэр OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Віталь Бяленік**, **кс. Віктар Санько** *(Масты)*, **кс. Ян Этэль SCJ** *(Гродна)*, **кс. Гэнрык Яблоньскі** *(Ваўкавыск)*, **кс. Андрэй Ядкоўскі** *(г.п. Вялікая Бераставіца)*, **кс. Вячаслаў Матукевіч** *(Ліда)*, **кс. Станіслаў Пытэль CSMA** *(в. Васілішкі)*, **кс. Ян Раманоўскі** *(Гродна)*, **кс. Віктар Савіцкі** *(в. Нецеч)*, **кс. Віталь Сідорка** *(Гродна)*, **кс. Дзмітрый Сядлецкі** *(в. Всялюб)*, **кс. Юрый Жэгарын** *(Навагрудак)*.

**27 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Лісоўскі** *(в. Вярэйкі)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Ян Гавецкі** *(Іўе)*, **кс. Люцыян Радомскі** *(в. Лунно)*.

**28 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Казімір-Тадэвуш Мараўскі OCD** *(Гудагай)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Адам Кваткоўскі SDS** *(Віцебск)*, **кс. Валерый Аброшка** *(Гродна)*, **кс. Антоній Ханько** *(Гродна)*, **кс. Ян Коўш**, **кс. Павел Ствол** *(в. Цудзэнішкі)*, **кс. Артур Вальчкевіч** *(Гродна)*, **кс. Андрэй Врублеўскі CSsR** *(Гродна)*, **кс. Андрэй Знашко** *(Ліда)*, **кс. Казімір Жэвалеўскі** *(в. Лабно)*.

**29 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Яцэк Хутман** *(в. Камаі)*, **кс. Станіслаў Лабан** *(в. Бенякoні)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*, **кс. Ежы Вільк SCJ** *(Варапаева)*, **кс. Віталь Дабраловіч** *(Гродна)*, **кс. Ежы Ёдзік** *(г.п. Радунь)*, **кс. Ежы Кузьміч** *(в. Новы Двор)*, **кс. Ежы Левінскі** *(Гродна)*, **кс. Руслан Мазан** *(Ліда)*, **кс. Андрэй Пышынскі** *(в. Казлоўшчына)*, **кс. Ян Раманчук**, **кс. Вальдэмар Слота** *(в. Вялікая Бераставіца)*, **кс. Павел Салабуда** *(Гродна)*, **кс. Яўгеній Учкуроніс** *(в. Дзярэчын)*, **кс. Віталь Вайцяхоўскі** *(в. Каменка)*.

**30 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Мазюк CSsR** *(Гродна)*; імяніны адзначаюць **кс. Генадзь Добрук** *(Мёры)*, **кс. Валерый Мазюк CSsR** *(Гродна)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч**, **кс. Адам Дынак**, канцлер *(Віцебск)*, **кс. Віктар Бочан CSsR** *(Гродна)*, **кс. Андрэй Лішко**, **кс. Чэслаў Паўлюкевіч** *(г.п. Рось)*, **кс. Андрэй Радзевіч** *(г.п. Рось)*, **кс. Павел Шанчук** *(в. Гожа)*.

**31 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**, **кс. Адам Дынак**, канцлер *(Віцебск)*; гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч**, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, **кс. Францішак Кісель** *(Полацк)*, **а. Юрый Катовіч** *(Докшыцы)*, **кс. Аляксей Ляшко** *(Швейцарыя)*, **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **а. Пётр Ясевіч** *(Докшыцы)*, **кс. Пётр Пятрага** *(в. Касцяневічы)*, **кс. Раман Цесляк CSsR** *(в. Парэчча)*, **кс. Гэнрык Яблонскі** *(в. Забалоць)*, **кс. Рычард Якубец** *(в. Мікелеўшчына)*, **кс. Тадэвуш Крыштопік** *(в. Квасоўка)*, **кс. Валерый Мазюк CSsR** *(Гродна)*, **кс. Станіслаў Садоўскі OFMConv** *(в. Поразава)*, **кс. Аляксандр Шэмет** *(в. Адамавічы)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала Марына Ткач*



Святая Уршуля Ледухоўская

# Тайна христианских

**Христианское искусство было символичным изначально. В жестокие времена гонений молчаливость символа делала искусство потаённым сокровищем. Нередко первые христиане узнавали друг друга по тайным знакам.**

**Ирина Языкова**, *рускатолик.рф*

Тайна символа есть одновременно умолчание и раскрытие его глубокого смысла, невидимого для непосвященных и открывающегося верующим.

Разгадать тайну символа – значит стать причастным к великому откровению, узнать, что существует иная реальность, кроме той, в которой обычно живёт человек.

О познании апостол Павел писал так: «Теперь мы видим как бы сквозь тусклое стекло, гадательно, тогда же лицом к лицу; теперь знаю я отчасти, а тогда познаю, подобно как я познан» (1 Кор 13,12). Первые христиане жили предчувствием скорого пришествия Иисуса Христа и предвкушением вечной жизни в Царстве Небесном. Символ помогал им приблизиться к грядущему Царству.

Что же такое символ? В Древней Греции был обычай: друзья, расставаясь на долгие годы, разламывали пополам какой-нибудь предмет (навощенную табличку с надписью, глиняную статуэтку, светильник и проч.) и каждый получал свою половинку. Встретившись после долгой разлуки, они или их потомки узнавали друг друга, сложив две половинки некогда целого предмета.

Точно так же работал и христианский символ: внешнее изображение было лишь половиной того, сокрытого, потаенного смысла, который был понятен лишь верующим. Рациональное постижение символа невозможно, он не расшифровывается путём логических размышлений. В христианском искусстве символ прочно связан со Священным Писанием.

Первыми произведениями христианского искусства стали настенные изображения в римских катакомбах II-IV вв., в подземных помещениях-лабиринтах, использовавшихся для погребения. В первые три века своего существования христиане жестоко преследовались властями Римской империи, и потому они не имели возможности ни строить храмов, ни даже собираться открыто, но они использовали для своих богослужений и собраний катакомбы.

Здесь, среди мрачного царства смерти, они воспевали жизнь. Скрытые под землёй, вдали от света, они славословили Христа – Солнце правды. О том, что первые христиане были светлыми, радостными, вдохновенными людьми, говорит их искусство.

Римские катакомбы обычно носят имена первых христианских мучеников – святых Калликста, Валентина, Домициллы, Присциллы и других. Стены испещрены рисунками, надписями, сюжетными изображениями. В те времена христианское искусство ещё не знало жесткого канона, и потому на стенах катакомб соседствуют античные и христианские мотивы, ветхозаветные сюжеты и евангельские образы.

Эти изображения являлись своего рода наглядной проповедью для христиан, подобно притчам. Простые с виду знаки и нехитрые сюжеты раскрывали для обитателей катакомб богатство Благой Вести, помогали понять, что есть добро и зло, истина и ложь, жизнь и смерть, спасение и гибель.

Единого стиля у этих изображений также ещё нет: здесь соседствуют графические рисунки и живописные композиции, отдаленно напоминающие помпейские фрески, и тем не менее чувствуется общий подход: главным становится духовное содержание образов. Глубина их смысла такова, что они прочно входят в символический язык изобразительного искусства. Вот наиболее часто встречающиеся первохристианские символы.



### Рыба

Это один из наиболее частотных символов, означающий Самого Христа. В древнейшей части катакомб Калликста исследователи обнаружили чёткое изображение рыбы, несущей на спине корзину с хлебами и сосуд с вином – евхаристический символ, обозначающий Христа, Который приносит людям пищу спасения, новую жизнь. В других катакомбах и на надгробных памятниках изображение рыбы также часто встречается, в том числе и в сочетании с иными символами.

Можно добавить, что знак рыбы – это зашифрованный символ веры христиан, их исповедание: греческое слово «рыба» – Ἰχθύς – представляет собой аббревиатуру начальных букв в следующей фразе: «Иисус Христос Божий Сын Спаситель», а это и есть то, во что верят христиане, за что отдавали свою жизнь первохристианские мученики. Кстати, христиане также символически изображались в виде рыбок. Один из ранних отцов Церкви – Тертуллиан – так писал: «Мы, маленькие рыбки, вслед за нашим Иисусом Христом в воде (благодати) рождаемся и, лишь пребывая в ней, можем быть невредимы».



### Агнец

Ещё один символ Христа, известный со времён Ветхого Завета. Обряд иудейской Пасхи включал заклание и вкушение пасхального агнца (молодого первородного ягненка без пятна и без порока). Так было завещено Самим Богом евреям накануне их исхода из египетского плена, а потом это вошло в празднование Пасхи как воспоминания об исходе.

Согласно преданию, один из двух агнцев, принесенных во время исхода Аароном в жертву, был украшен терновым венцом. Впоследствии пророки называли Агнцем ожидаемого Израилем Мессию. Постепенно Агнец стал символом искупления, смирения, кротости и послушания Христа. Пророчествуя об искупительной жертве Христа, Иоанн Креститель у Иордана произнес, указывая на Иисуса: «Вот Агнец Божий, Который берет на Себя грех мира» (Ин 1,29).

В раннехристианских памятниках, а затем в мозаиках первых христианских храмов можно часто видеть изображения Христа в виде агнца. И хотя в VII веке Трулльский собор постановил «вместо ветхого Агнца писать Христа в человеческом образе», такие изображения в западнохристианском искусстве сохранились до сих пор.

### Голубь

Этот образ также пришёл в христианское искусство из Ветхого Завета. В Книге Бытия рассказывается, как голубь принес Ною зеленую ветвь и этим оповестил его об окончании потопа и о том, что Божий гнев сменился на милость. С тех пор голубь с оливковой ветвью в клюве стал символом мира.



В катакомбах также нередко встречается изображение голубя с ветвью – это символ новой жизни, души, познавшей Христа. В Святом Писании неоднократно упоминается голубь как символ кротости, чистоты, доверия. Иисус Христос завещал Своим ученикам: «Будьте мудры, как змии, и просты, как голуби» (Мф 10, 16). В Новом Завете голубь символизирует Святого Духа, поэтому в некоторых изображениях голубь олицетворяет собой Божье присутствие и Божье благословение.



### Павлин

Изображение этой птицы встречается наиболее часто на надгробных памятниках – плитах и саркофагах, потому что павлин – символ бессмертия. Согласно легендам, его тело после смерти не подлежит тлению. Отношение первых христиан к смерти было светлым и радостным, потому что его освящала вера в воскресение Христа и уверенность, что христиане также воскреснут вместе с Ним. Любопытно, что в эпоху Средневековья павлин считался символом гордости.

### Лилия

Цветок, на который указал Иисус Христос, говоря о Царстве Небесном: «Посмотрите на полевые лилии, как они растут: ни трудятся, ни прядут; но говорю вам, что и Соломон во всей славе своей не одевался так, как всякая из них» (Мф 6, 28-29).

Белая лилия – символ невинности и чистоты, символ любящей Бога души. Об этом написано в Песни Песней. Согласно Святому Писанию, храм Соломона был украшен лилиями: зодчий Хирам придал форму лилий капителям громадных колонн и запечатлел их на стенах и сводах храма.



Ещё ранее Моисей приказал украсить семисвечник изображением лилии, а также изготовить купель для омовения, совершаемого первосвященником, в форме её цветка. Существует предание, что архангел Гавриил в день Благовещения пришёл к Деве Марии с белой лилией, которая с тех пор стала символом Богородицы, Её чистоты, невинности и преданности Богу.

У первых христиан лилия олицетворяла мучеников, которые остались чисты и верны Христу, несмотря на жестокие гонения. Вот почему на гробницах мучеников мы видим изображения лилий: например, лилиями убрана гробница святой мученицы Цецилии. С этим же цветком в Средневековье изображали святых, прославленных чистотой своей жизни: св. Иосифа, св. Иоанна, св. Франциска, св. Антония, св. Гертруду и др.



### Пеликан

Также образ, пришедший из античных легенд. В изложении римского ученого-энциклопедиста и писателя Плиния Старшего, пеликан спасает своих птенцов от смерти, кормя их собственной кровью и плотью.

Уже в III веке образ пеликана входит в христианское искусство и становится устойчивым символом Христа, отдавшего Свою Плоть и Кровь для спасения людей.

К тому же изображение пеликана, сидящего на гнезде, покрывая крыльями своих птенцов, напоминало первым христианам слова Спасителя: «Иерусалим, Иерусалим!.. Сколько раз хотел Я собрать детей твоих, как птица собирает птенцов своих под крылья…» (Мф 23,37).

# СИМВОЛОВ



## Виноградная лоза

Евхаристический символ, а также символ Божественного избранничества. Виноградник в Святом Писании является символом Земли Обетованной, которую дал Бог Своему избранному народу в удел, а посему виноградник – это и символ самого народа Божия, Церкви. В последней беседе с учениками Иисус Христос сказал: «Я есмь истинная виноградная лоза, а Отец Мой – виноградарь. Я есмь лоза, а вы ветви; кто пребывает во мне, и Я в нём, тот приносит много плода» (Ин 15,1.5).

Виноградное вино на Тайной Вечере становится Кровью Христа, которую Он отдаёт за жизнь мира, за искупление грехов. Изображение виноградной лозы или гроздьев винограда нередко соединялось с изображением пшеницы или хлебов, также являющихся евхаристическим символом.

## Феникс



Феникс – птица волшебная, пришедшая из древних египетских мифов. Согласно легенде, пересказанной Геродотом, она умирает раз в 500 лет, сжигая себя на жертвенном огне, и каждый раз вновь возрождается из пепла.

Для христиан этот миф символизировал воскресение Иисуса Христа. Раннехристианский писатель Лактанций, живший при императоре Диоклетиане (III в.), написал поэму «Птица Феникс», в которой сравнивал её с Иисусом Христом, претерпевшим распятие и смерть и воскресшим вновь.



## Якорь

С раннехристианских времён это знак надежды и спасения. Сохранились печати первых христиан с изображением якоря, монограммы Христа и рыбками. Встречаются изображения, на которых вместе с якорем мы видим большую рыбу. Так соединяются знаки Христа и спасения, Им принесенного.

Изображение якоря встречается также на брачных кольцах христиан, где через этот знак показывается христианская верность супругов и смысл таинства брака. В христианской символике нередко соединяется изображение креста и якоря, когда образуется крест с полумесяцем. Такие кресты можно видеть и на православных храмах.



## Корабль

Древний символ Церкви, прообразом которого является ветхозаветный Ноев Ковчег. В Новом Завете встречается образ лодки: например, лодка апостола Петра, в которой нередко приходилось Христу с учениками переправляться через Галилейское море. Из этой же лодки Христос проповедовал собравшимся на берегу людям.

Образ лодки Петра – это символ апостольской общины, ставшей затем Церковью, большим кораблём. Изображение корабля часто встречается на стенах катакомб. Раннехристианские писатели и отцы Церкви часто сравнивали Церковь с кораблём, плывущим по волнам житейского моря, а Христа называли кормчим этого корабля.

## Добрый Пастырь





Так называли изображение Христа с овечкой на плечах. Встречается оно и на стенах римских катакомб, и на рельефах саркофагов, и даже в круглых скульптурах раннехристианского искусства. Это евангельский образ. Сам Иисус Христос сравнивает Себя с пастырем – пастухом, который полагает жизнь свою за овец (ср. Ин 10, 14).

* * *

Символизм раннехристианского искусства был гораздо глубже простой зашифрованности изображений, он открывал многозначность бытия, учил глубине восприятия жизни.

Так, например, ветхозаветные сюжеты воспринимались не столько как иллюстрация к Ветхому Завету, сколько как раскрытие через них смысла Нового Завета. Скажем, сцена «Даниил во рту львином» напоминала об искупительных страданиях Христа, а сюжеты на тему книги пророка Ионы символизировали трехдневное пребывание Христа во чреве смерти, Его схождение в ад и воскресение.

И даже античные сюжеты, например, изображение Орфея, проецировались на царя Давида, также игравшего, как и античный герой, на музыкальном инструменте, извлекая из него животворные звуки, и одновременно – на Христа, победившего силу ада.

Раннехристианское искусство, на первый взгляд, кажется очень простым, но в нём, как в зерне, сокрыто всё последующее развитие если не мирового, то, по крайней мере, европейского искусства вплоть до XX века.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Ці могуць быць хроснымі бацькамі яўрэй і каталічка?



*“Мы збіраемся хрысціць сына. Ці можа быць у яго хросным яўрэй і хроснай каталічка?”*
Юля

**На пытанне адказвае кс. Андрэй Сідаровіч MIC:**

– Пачнём адказ на гэтае пытанне з хроснай каталічкі. Так, яна можа быць хроснай пры ўмове, што сама з’яўляецца хрысціянкай-практыкам.

Ідэальны варыянт кандыдатаў на хросных – гэта калі і бацька, і маці – католікі. Такое патрабаванне Касцёла звязана з разуменнем ролі хросных бацькоў: яны не толькі “бюракратычныя” сведкі падзеі, але і сапраўдныя памочнікі родных бацькоў у рэлігійным выхаванні дзіцяці. Таму Касцёл настойвае, каб хросныя самі практыкавалі веру: толькі дэкларацыі, што я ахрышчаны, недастаткова.

Святар мае права папрасіць пісьмовую даведку, ці з’яўляецца дадзены чалавек вернікам той або іншай парафіі. Тое, што святар ставіць канкрэтныя патрабаванні, гэта яго права і абавязак. У прынцыпе хросных выбіраюць бацькі дзіцяці, а зацвярджае іх, дае згоду на выкананне місіі, пробашч парафіі.

Паколькі многія нашы сем’і змешаныя, каталіцка-праваслаўныя, то, здараецца, на аднаго з хросных запрашаем чалавека іншай канфесіі. Касцёл дазваляе гэта як выключэнне.

Яўрэй як неахрышчаны чалавек можа быць сведкам хросту і ўласным подпісам пацвердзіць, што сакрамант быў удзелены ў яго прысутнасці. Гэта функцыя сведкі хросту толькі для некатолікаў. Калі католік, кандыдат на хроснага, не адпавядае патрабаванням, то ён нават сведкам хросту быць не можа.

# Ці неабходна Святая Камунія, каб патрапіць у рай?

*“Ці неабходна Святая Камунія, каб патрапіць у рай?”*
Ірына

**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP:**

– Я сабе не ўяўляю верніка, католіка-практыка, які не мае перашкодаў і не прыступае да Св. Камуніі!

Перадусім Святая Камунія ўмацоўвае нашу сувязь з Хрыстом. Галоўным плёнам прыняцця Эўхарыстыі ў Святой Камуніі з’яўляецца глыбокае яднанне з Езусам Хрыстом. Пан кажа: “Хто спажывае Маё Цела і п’е Маю Кроў, трывае ўва Мне, а Я ў ім” (Ян 6, 56).

Святая Камунія нясе нам збаўленне, уключае нас у жыццё Найсвяцейшай Тройцы, аб’ядноўвае нас у Касцёл, умацоўвае нашу любоў да людзей, ажыўляючы яе і схіляючы нас праяўляць гэтую любоў, бо ў Святой Камуніі ўтоена найбольшая любоў – сам Пан.



Св. Камунія – гэта не нейкая магічная працэдура, каб патрапіць у жыццё вечнае, але свядомы акт верніка. Праз Святую Камунію мы яднаемся з Богам і атрымліваем Божыя ласкі. Шостая галоўная праўда веры вучыць нас, што ласка Божая неабходная для збаўлення! Хто ж патрапіць у рай, ведае толькі Бог!



# Чаму святары не жэняцца?

*“Чаму святары не жэняцца?”*
Марта

**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP:**

– У Рыма-каталіцкім Касцёле святары не жэняцца, жывучы ў цэлібаце, а святары-законнікі складаюць шлюб чыстасці. Вучэнне пра цэлібат у Касцёле не з’яўляецца дагматам веры, а дысцыплінарным правілам. Гэта правіла сягае сваімі каранямі да вытокаў хрысціянства.

Сярод апосталаў, якіх выбраў Езус, некаторыя былі жанатыя, а некаторыя – не, як, напрыклад, св. Ян. У Евангеллі таксама ўспамінаецца пра цэлібат. Напрыклад, у евангельскіх тэкстах паводле св. Марка (10, 29), св. Мацвея (19, 12) “ёсць скапцы, якія самі зрабілі сябе скапцамі дзеля Валадарства Нябеснага”. У Евангеллі паводле св. Лукі (18, 28-30) Езус гаворыць: “Сапраўды кажу вам, што няма таго, хто б пакінуў дом, ці жонку, ці братоў, ці бацькоў, ці дзяцей дзеля Божага Валадарства і не атрымаў бы значна больш у гэты час, а ў будучым веку – жыццё вечнае”.

Паводле каталіцкага вучэння, тыя, хто ідзе за святарскім ці манаскім пакліканнем, атрымліваюць ласку “непадзеленага сэрца”, што дазваляе больш свабодна служыць Богу і людзям. Цэлібат грунтуецца на веры і любові ў Бога і да Бога. Сам Езус Хрыстус, які з’яўляецца ўцелаўлёнай Любоўю, жыў у цэлібаце. Святар праз выключную любоў яднаецца з Касцёлам і праз цэлібат цалкам прысвячае сябе бескарыснай службе Хрысту і Яго Касцёлу. Святары не жэняцца, і гэта з’яўляецца прароцкім знакам у свеце аб новым стварэнні, аб жыцці, якое будзе пасля ўваскрашэння. Езус казаў: “Бо пры ўваскрашэнні не жэняцца, не выходзяць замуж, але жывуць, як анёлы Божыя на нябёсах”.

Цэлібат, хутчэй, дапамагае святарам у душпастырскай дзейнасці. Як і ў кожнай справе, ёсць свае “за” і “супраць”. Калі святар сапраўды стараецца несці Евангелле людзям, то бясшлюбнасць – гэта добры “інструмент” службы Богу і Касцёлу.

# ПРЫГАТАВАЦЬ і ПАДРЫХТАВАЦЬ: як правільна выкарыстоўваць дзеясловы?

**Дзеясловы *гатаваць* і *рыхтаваць* (незакончанае трыванне) і формы закончанага трывання *прыгатаваць* і *падрыхтаваць* з высокай частотнасцю выкарыстоўваюцца ў сучаснай беларускай мове, як у вусным маўленні, так і ў пісьмовых тэкстах. Але яны маюць рознае значэнне, таму спалучаюцца са словамі розных тэматычных груп. А гэты аспект якраз і не ўлічваецца моўцамі, журналістамі, што прыводзіць да парушэння дакладнасці славаўжывання. Паспрабуем разабрацца.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Паводле “Тлумачальнага слоўніка беларускаймовы”(ТСБМ) **гатаваць** – “варыць, рыхтаваць ежу”: *А маці старалася і яду гатаваць госцю лепшую, не зважаючы на яго пратэсты.* Якуб Колас (Т.2, с. 39). А яшчэ **гатаваць** – “кіпяціць ваду, рабіць кіпень”. Як размоўныя варта ўспрымаць выпадкі ўжывання дзеяслова **гатаваць** у наступных кантэкстах: *гатаваць дровы на зіму, гатаваць насенне, гатаваць трактар да тэхагляду* і г.д. Тут трэба выкарыстоўваць лексему **рыхтаваць**.

Дзеяслоў **рыхтаваць** мае асноўнае значэнне – “прыводзіць што-небудзь у стан гатоўнасці”: *З гаража далятала вуркатанне матора – шафёр рыхтаваў машыну ў рэйс.* Іван Шамякін (ТСБМ, Т. 4, с. 741). Але гэта не датычыць ежы ці пітва, якія робіцца праз тэрмічную апрацоўку. Таму не варта казаць, напрыклад, *рыхтаваць боршч* ці *рыхтаваць сваю улюбёную страву*. Гэта можна толькі **гатаваць**.

Падобныя памылкі выкліканыя ўплывам рускай мовы, дзе дзеяслоў **готовить** ужываецца з розным значэннем. У беларускай жа мове неабходна размяжоўваць спалучальныя магчымасці прыведзеных вышэй лексем.

Памылкі з названымі дзеясловамі ці аднакаранёвымі назоўнікамі фіксуюцца часам і ў сродках масавай інфармацыі, у тым ліку і ў газеце “Звязда”: *Жоўтыя дажджавікі ... **прыгатаваў** барысаўскі клуб для сваіх заўзятараў на сядзеннях “Дынама”* (25.11.11); *У следчым ізалятары зараз знаходзіцца 50-гадовая жыхарка Гомеля, арыштаваная па абвінавачванні ў **прыгатаванні** да наўмыснага забойства* (23.05.12). Зразумела, што ў прыведзеных мікракантэкстах трэба ўжываць адпаведна славаформы **падрыхтаваў** і **ў падрыхтоўцы**.

Такім чынам, мы можам сказаць, напрыклад, *трэба прыгатаваць ежу, прыгатаваць абед* (у сэнсе, зварыць) і *падрыхтаваць урокі, падрыхтаваць машыну да летняга сезону* (не прыгатаваць).

# Які сэнс у адпустах?

*"Хацеў бы ўдакладніць пра адпусты. Што разумеецца пад тэрмінам "часовая кара за грахі" і што значыць "адпуст гэтай кары"? Пасля таго як грэх адпускаецца Хрыстом праз святара падчас сакраманту пакаяння, верніку прызначаецца пакута. Ці сэнс выканання ўмоваў адпусту такі ж, што і пакуты? А менавіта – накіроўваць сваё сэрца да Бога праз хрысціянскія ўчынкі малітвы і міласэрнасці? Ці адпусты – гэта дадатак да сакраманту пакаяння? Дзякуй!"*
*Павел*



**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Дарагі Павел! Дзякуй за пытанне, якое датычыць важнай рэчаіснасці жыцця верніка, асабліва ў кантэксце надзвычайнага Юбілейнага Года Міласэрнасці.

У Катэхізісе Каталіцкага Касцёла чытаем, што адпуст – гэта дараванне часовага пакарання за ўжо прабачаныя грахі (пар. ККК 1471). На самым пачатку варта ўдакладніць, што адпуст (таксама поўны) не замяняе сакрамантальнай споведзі і не адпускае грахоў.

Каталіцкае разуменне адпустаў абапіраецца на тэалагічныя падмуркі і традыцыі. На працягу многіх стагоддзяў Апостальская Сталіца неаднаразова выказвалася пра адпусты. Апошнім нарматыўным актам, які тлумачыць і рэгулюе дадзеную рэальнасць, з'яўляецца чацвёртае выданне Enchiridion indulgentiarum з 1999 года. Вельмі карыснае вучэнне можна знайсці ў Апостальскай Канстытуцыі Indulgentiarum Doctrina з 1967 года, якая звяртае ўвагу на праўду пра грэх, яго наступствы і дар прабачэння дзякуючы Божай міласэрнасці. Узгаданы дакумент прыпамінае пра **тры праўды**, звязаныя з адпустамі:

1. Грэх па сваёй прыродзе вядзе да пакарання, якое вернік павінен прыняць і выканаць.

2. Існуе прынцып салідарнасці паміж людзьмі ў Адаме і ў Хрысце, канкрэтнай праявай якой ёсць еднасць святых.

3. Існуе скарбніца Касцёла, што складаецца з заслуг Хрыста, Дзевы Марыі і святых, чым вернікі могуць карыстацца праз пасярэдніцтва Касцёла.

Дзеля разумення навучання і практыкі адпустаў неабходна заўважыць, што грэх вядзе да падвойнага выніку. Праз грэх чалавек становіцца вінаватым перад Богам (таксама перад бліжнімі) і заслугоўвае пакарання. Пакаранне за грэх вынікае са справядлівасці ў міжасабовым парадку. Часта сама прырода карае за дрэнныя ўчынкі, за правіны, якія ўжо прабачаны Богам на споведзі (напр., грэх супраць уласнага здароўя).

Можна казаць пра ступені віны і пакарання. Цяжкі грэх, які інакш называецца смяротным, пазбаўляе еднасці асобы з Богам, а ў выніку – вечнага жыцця. У гэтым выпадку ідзе гаворка пра вечнае пакаранне, якое ёсць непасрэдным вынікам правіны (смяротны грэх). У сакраманце споведзі Бог прабачае правіну, а таксама вечнае пакаранне. Трэба ўсведамляць, што кожны грэх, таксама лёгкі ці, інакш, штодзённы, вядзе да неўпарадкаванай прывязанасці да стварэнняў, ад якой неабходна ачысціцца альбо на зямлі, альбо пасля смерці ў чысцы. Прасцей можна сказаць, што чалавек мае з'яднацца навекі са святым і чыстым Богам, што ў сваю чаргу патрабуе ад яго святасці, чыстасці і бясконцай любові Бога. Касцёл верыць, што свядомы і вольны працэс навяртання, учынены з гарачай любоўю, можа прывесці да поўнага ачышчэння грэшніка, так, што яму ўжо не давядзецца спазнаваць ніякай кары (пар. ККК 1472).

У сакраманце споведзі вернік атрымлівае прабачэнне грахоў і вечнай кары, аднак на ім застаецца часовае пакаранне (ад яго таксама можа быць вызвалены дзякуючы неспазнанай Божай міласэрнасці). Пакаранне ў міжасабовых адносінах часта мае ачышчальны або выхаваўчы характар і не вынікае з жадання прыняжэння ці помсты. Вернік не пакінуты сам-насам у працэсе навяртання і ачышчэння, але карыстаецца дарам камуніі са святымі і іншымі братамі і сёстрамі ў адным Містычным Целе Хрыста. Духоўныя даброты, якія выплываюць з камуніі святых, называюцца скарбніцай Касцёла. Нельга іх успрымаць у матэрыяльных катэгорыях, але як невычэрпную каштоўнасць мукі і смерці Езуса Хрыста, Яго экспіяцыйнай ахвяры і заслугаў дзеля адкуплення чалавека.

Касцёл карыстаецца гэтай крыніцай, ахвяруючы адпусты жывым ці часцовым душам. Касцёл не абмяжоўваецца ў сваім служэнні толькі прабачэннем часовага пакарання, але заахвочвае да чынаў аскезы, малітвы дзеля атрымання адпусту і такім чынам становіцца вестуном і пасярэднікам бясконцай міласэрнасці Бога, Які чалавеку дарue прабачэнне і аднаўляе страчаную ім годнасць. Адпуст, хоць нейкім чынам звязаны з сакрамантам споведзі, не ёсць дадаткам да яго, але належыць да паўсюднай эканоміі адкуплення і апраўдання чалавека.

З 8 снежня 2015 г. па 20 лістапада 2016 г. працягваецца надзвычайны Юбілейны Год Міласэрнасці, устаноўлены Святым Айцом Францішкам. З гэтай нагоды можна атрымаць адпуст. Юбілейны адпуст атрымліваюць тыя, хто пераходзіць праз Браму міласэрнасці, а таксама хворыя, асобы старэйшага ўзросту і тыя, хто не можа выхадзіць з дому, калі яны ўдзельнічаюць у святой Імшы ці супольнай малітве таксама праз сродкі камунікацыі і калі прымаюць Святую Камунію. Святы Айцец пастанавіў таксама, каб вязні маглі атрымаць адпуст у вязнічных капліцах, а таксама пераходзячы праз дзверы сваёй камеры (для іх яны і ёсць Брамай міласэрнасці), кіруючы думкі і малітву да Айца.

Нагодай атрымання адпусту ёсць таксама выкананне ўчынкаў міласэрнасці (катэхізіс падае 7 адносна цела і 7 адносна душы). Варта і тут адзначыць, што для атрымання поўнага адпусту недастаткова прайсці праз Браму міласэрнасці ці выканаць прадпісаны ўчынак. Для атрымання поўнага адпусту вернік павінен быць у стане асвячальнай ласкі (пасля споведзі), прыняць Святую Камунію, памаліцца ў інтэнцыях, прызначаных Святым Айцом на дадзены месяц (звычайна выбіраецца малітва "Ойча наш" ці "Вітай, Марыя" або "Веру ў Бога").

Важнай умовай поўнага адпусту ёсць выключэнне ўсялякай прывязанасці да граху. Калі будуць выкананы не ўсе ўмовы, то адпуст будзе частковым. Пасля адной споведзі можна атрымаць некалькі поўных адпустаў (на працягу некалькіх дзён), аднак са Святой Камуніяй звязаны толькі адзін поўны адпуст. Правільным будзе наведванне юбілейнай святыні, спалучанае са споведдзю і поўным удзелам у святой Імшы. У выпадку, калі па нейкіх прычынах верніку немагчыма прыступіць да споведзі, яго пераход праз юбілейную браму і малітва ў святыні стане выразам веры і духоўнай лучнасці з Богам, які любіць кожнага чалавека.

# Што? Дзе? Калі?

## Каталіцкая віктарына

**1. Месца, дзе аб'явілася Маці Божая:**
а) Кана
б) Будслаў
в) Фаціма

**2. Альтэрнатыўнае слова да "пекла":**
А) Жах
Б) Геена
В) Трылер

**3. У тэалогіі гэтым словам называецца дар Бога:**
А) бласлаўленне
Б) натхненне
В) ласка

**4. Рэгіён у Святой Зямлі, дзе вырас Езус:**
А) Галілея
Б) Ідумея
В) Юдэя

**5. Анёл, які звеставаў Марыі нараджэнне Божага Сына:**
А) Міхал
Б) Габрыэль
В) Рафал

**6. Давід забіў яго каменем з прашчы:**
А) Натанаэль
Б) Галіяф
В) Бараба

**7. Па-габрэйску так гучаць словы "Няхай Бог збавіць":**
А) Аллелюя
Б) Кірые элейсон
В) Гасанна

**8. Апісанне жыцця святых:**
А) агіяграфія
Б) геаграфія
В) парафія

**9. Міністэрства ў Ватыкане, падраздзяленне Рымскай курыі:**
А) рэзервацыя
Б) кангрэгацыя
В) сепарацыя

**10. На крыжы Езуса было напісана:**
А) SPQR
Б) INRI
В) REX

**11. Ён заснаваў ордэн езуітаў:**
А) св. Дамінік Савіа
Б) св. Ян Боска
В) св. Ігнацый Лаёла

**12. Калі адзначаецца Дзень Усіх Святых?**
А) 1 лістапада
Б) 2 лістапада
В) 31 кастрычніка

**13. Маці Божая так сябе назвала падчас аб'яўленняў у Лурд:**
А) Каралева Апосталаў
Б) Прачыстая Дзева
В) Беззаганнае Зачацце

**14. Прабачэнне кары за грахі:**
А) споведзь
Б) адпуст
В) фэст

**15. Ён пераклаў Біблію на лацінскую мову:**
А) св. Геранім
Б) св. Кірыл
В) св. Мяфодзій

**16. Прарок, які плакаў:**
А) Ісая
Б) Ерамія
В) Эзэхіэль

**17. Хто пахаваў Хрыста?**
А) св. Павел з Тарсу
Б) св. Ян Апостал
В) св. Юзаф з Арыматэі

**18. Першы прэзідэнт-католік у ЗША?**
А) Рузвельт
Б) Кенэдзі
В) Клінтан

**19. Юда выдаў Хрыста:**
А) пацалункам
Б) абдымкам
В) указаў пальцам

**20. Першую кнігу "Псалтыр" Скарына надрукаваў:**
А) у 1514г.
Б) у 1517г.
В) у 1569г.

*Падрыхтаваў кс. Віктар Місевіч*

*Адказы глядзіце на старонцы 21*

# Включаем режим «Весна»: окунаемся в мир запаха и цвета



**Наконец-то к нам пришла не просто календарная, а настоящая весна, несущая в себе тепло, пробуждение и яркие краски. Именно этот факт подтолкнул меня рассказать о цвете и запахе.**

**Марина Ткач**, *социальный педагог, психолог*

Я не буду здесь говорить о каких-либо модных цветовых тенденциях этой весны, вовсе нет. Для этого есть иные издания и более компетентные специалисты. Я же попытаюсь раскрыть психологическое значение основных цветов и ароматов.

**Красный** – возбуждающий, горячий, активизирующий, ассоциация с опасностью и агрессией. Люди, предпочитающие красный, любят быть лидерами. Почти все чувства у них на максимуме. Они настойчивы, не любят откладывать дело. Нередко бывает такое, что те, кто предпочитает красный, демонстративны и эгоистичны, нетерпимы, порой упрямы и жестоки.

**Оранжевый** – любимый цвет людей, обладающих интуицией, и страстных мечтателей. Поклонники данного цвета являются «людьми действия»: стремятся к победе не уловками и ухищрениями, а готовы к реальным действиям, чтобы добиться успеха. Люди, предпочитающие оранжевый, творческие личности. Они сильны, свободолюбивы, прощают всех. Любители оранжевого могут быть о себе высокого мнения.

**Жёлтый цвет** стимулирует работу мозга и нервной системы. Жёлтый – это радость, тепло и вера в самое хорошее. Символизирует спокойствие, непринуждённость в отношениях с людьми, интеллигентность. Люди, которые любят жёлтый, общительные, любопытные, смелые, легко приспосабливаются и получают удовольствия от возможности нравиться и привлекать к себе людей.

**Зелёный** – это природный, успокаивающий и расслабляющий цвет. Зелёный обладает свойством исцеления, нормализует высокое давление. Люди, которые выбирают зелёный, чётко и рационально планируют свой жизненный путь. К любой жизненной задаче подходят со всей серьёзностью. Их внутренний мир богат, но открывать его они не спешат, хоть сами по себе и не скрытны. Сторонники зелёного цвета – люди весьма осторожные, они относятся к категории созерцателей и мыслителей, но никак не людей действия. В то же время любят оказывать помощь другим.

**Голубой цвет** внушает доверие и уважение к вашей персоне, а также подчеркнёт ваш высокий социальный статус и покажет другим, что вы склонны к стабильности. Также это признак креативности и чувствительности. Водяной и ледяной голубой успокаивает охлаждая.

**Синий** – цвет неба, покоя, расслабления. Если он нравится, то это говорит о скромности и меланхолии. Такому человеку часто нужно отдыхать, он быстро устает, ему крайне важно чувство уверенности, благожелательность окружающих. Выбор синего цвета в качестве наиболее предпочитаемого отражает физиологическую и психологическую потребность человека в покое, а отрицание его означает, что человек избегает расслабления. При заболевании или переутомлении потребность в синем цвете увеличивается.

**Фиолетовый** – опасный цвет. Он давит на психику, вызывает апатию. Но при этом фиолетовый повышает низкую самооценку. Иногда этот цвет выбирают люди, которым сложно реализовать себя в жизни. Они обычно очень самокритичны. Всегда очень рационально контролируют себя.

**Розовый** – мягкий цвет, который притупляет эмоции, гнев и агрессию. Розовый может означать добро, страсть, романтику, любовь. Те, кто предпочитает розовый, хотят жить полной жизнью, желают новых впечатлений, трудолюбивы и не любят отдыхать. Но иногда люди, предпочитающие розовый цвет, могут быть легкомысленными, инфантильными, любящими покрасоваться перед всеми.

**Белый цвет** – чистый, невинный и верный. Именно такие ассоциации он вызывает. Символизирует завершённость и совершенство, свободу возможностей и снятие любых барьеров. Люди, которые выбирают белый, готовы отдаться своему делу полностью, но при этом они бывают недотрогами. Иногда они могут изолироваться от всех вокруг и окружающих дел, разочароваться во всем, и отрешённо скучать целыми днями. Иногда открыты всему миру, могут легко почуять вранье, и так же легко вскрыть истину сложной проблемы.

Хотелось бы сказать несколько слов и о наиболее популярных цветах – коричневом и чёрном. Именно их мы чаще всего выбираем в одежде, так как это практично и комфортно, ведь таким образом мы никак не выделяемся из толпы, а значит, вроде как и незаметны.

**Чёрный цвет** – цвет неуверенности, символизирующий мрачное восприятие жизни. Тот, кто предпочитает одеваться в черное, нередко воспринимает жизнь в тёмных тонах, неуверен в себе, несчастлив, склонен к депрессии, поскольку не сомневается, что его идеалы в жизни недостижимы. В тоже время люди, любящие чёрный, – загадки. Они хотят неосознанно привлечь к себе внимание окружающих, так как черный цвет любопытен, потому что скрывает за собой что-то интересное и даже иногда страшное.

**Коричневый** обычно предпочитают тогда, когда вокруг всё плохо складывается. Он является своеобразной надеждой на то, что всё будет хорошо. Люди, выбирающие коричневый, любят работать и говорят правду.

А вот **серый цвет** достаточно дружелюбен и надёжен. Обычно те, кто предпочитает серый, на первое место ставят разум, а не эмоции. Серая одежда дает силу неуверенным личностям.

И в завершении еще несколько слов о запахе. Считается, что парфюм подбирают для того, чтобы понравиться другим, облагородить свой собственный запах, также подчеркнуть свою индивидуальность.

Если вы предпочитаете сладкие, **цветочные и фруктовые ароматы**, это говорит о том, что вы экстраверт, достаточно открыты для окружающих и готовы поделиться своими эмоциями. Скорее всего, такой выбор духов подходит людям сангвинического темперамента, которые всегда рады привлечь к себе внимание и достаточно уравновешены эмоционально.

Если человек предпочитает **свежие, но приглушённые, спокойные ароматы** (алоэ, морской бриз, свежие фрукты – лимоны или яблоки), это значит, что он интроверт, закрыт от окружающих, не готов к доверительным отношениям с первым встречным. Общается с незнакомым человеком очень настороженно, боязливо. Никогда не открывается сразу. Он достаточно спокоен, неэмоционален. Такой выбор говорит о том, что человек либо меланхолик, либо флегматик.

Если человек любит **яркий, резкий аромат**, то это признак высокой эмоциональности. Подобный аромат выбирают люди, которые хотят, чтобы их заметили, они стараются проявить себя во всём, в том числе и в очень сильном, иногда отталкивающем запахе. Такой выбор характерен для холериков – людей, склонных к резким эмоциональным перепадам, но в то же время достаточно свободно идущих на контакт.

Надеюсь, что знания, полученные сегодня, позволят вам без опаски выбирать и, что немаловажно, носить яркие цвета, которые лишь подчеркнут вашу неповторимость и индивидуальность. А правильно подобранный аромат станет завершающим штрихом вашего весеннего образа.

**Яркой и приятной вам весны!**



**В Пинске, на юге Беларуси, уже весна.** *Фото Дмитрия Лупача*



## Віншуем!

*26 красавіка адзначае свой Дзень нараджэння* ***ксёндз Генадзь Дабрук.***

*Шаноўны ксёндз Генадзь! Шчыра віншуем з гэтай нагоды! Жадаем Вам добрага здароўя, плёну працы на Божай ніве, Божае апекі і моцы духа! Дзякуем за працу ў нашай парафіі ў 2001 годзе, за адраджэнне веры ў душах і сэрцах чашнічан!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі горада Чашнікі***

## Віншуем святара!

*Паважанаму* ***ксяндзу Генадзю Добруку*** *з нагоды Дня нараджэння (26 красавіка) перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя, душэўнага спакою, усмешкі на твары, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, як мага больш адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў, безупыннай надзеі, радасці ад паклікання і Хрыстовай любові, каб кожны Ваш дзень быў сонечны і шчаслівы.*

*Мы ўдзячныя Богу, што выбраў Вас з многіх, а таксама за тое, што паслаў на наш шлях такога цудоўнага святара і ў мінулым сапраўднага гаспадара нашага касцёла.*

*Няхай Пан Бог узнагародзіць Вас за адданую працу ў нашай Ідолтаўскай парафіі, за абвяшчэнне Божага слова, за мудрыя казанні, за добрае сэрца і малітвы ў нашых інтэнцыях! Дзякуем за цярплівасць да нас.*

*Мы былі б вельмі шчаслівыя адчуць зноў Вашу душпастырскую апеку ў нашым Ідолтаўскім касцёле. Маем на гэта надзею!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне Ідолтаўскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Мы хочам перадаць віншаванне з нагоды дня нараджэння (26 красавіка)* ***ксяндзу Генадзю Добруку,*** *які працаваў у нашай парафіі.*

*Жадаем ксяндзу Генадзю моцнага здароўя, ажыццяўлення ўсіх планаў і задумак, поспехаў у душпастырскай працы.*

***З павагай, вернікі Ідолтаўскай парафіі (Мёрскі р-н)***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны* ***ксёндз-пробашч Сяргей Сурыновіч!*** *Шчыра віншуем Вас з нагоды юбілейнага дня нараджэння, які Вы адзначылі 13 красавіка!*

*Ад шчырага сэрца жадаем Вам поспехаў на няпростым шляху Божага паклікання, дапамогі Пана Бога і апекі Маці Божай. Няхай заўсёды будзе ў Вас моцнае здароўе і добры настрой.*

*Дзякуем Вам за працу, за шчырасць і адданасць. Дзякуем Богу за Вас, а Вашым бацькам мы ўдзячныя за сына-святара!*

***З любоўю і малітвай за Вас, вернікі парафіі Св. Юзафа капліцы ў аг. Друйск***



## Віншуем і дзякуем!



*Шчыра дзякуем* ***ксяндзу-пробашчу Генрыку Акалатовічу*** *за арганізацыю парафіяльнага фэсту 19 сакавіка, падчас якога Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч асвяціў пяты па ліку прыгожы алтар святой Тэрэзы ад Дзіцятка Езус. Віншуем нашага ксяндза Генрыка з нагоды дня нараджэння, які ён адзначыў 10 сакавіка.*

***З павагай ад імя вернікаў касцёла Святога Юзафа ў Валожыне, Хрысціна Маркоўская***

## Шчыра віншуем!



*1 красавіка адзначае свой Дзень нараджэння цудоўны святар* ***ксёндз Францішак Кісель,*** *пробашч нашай Полацкай парафіі св. Андрэя Баболі.*

*Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу за нашага святара і дзякуем кс. Францішку за адраджэнне веры, за паглыбленне ведаў пра Пана Бога. Дзякуем за яго бацькоўскі клопат пра кожнага парафіяніна – ад самага маленькага да найстарэйшага, за мудрае абвяшчэнне Божай навукі.*

*Ад усяго сэрца жадаем кс. Францішку найвялікшых ласкаў Божых! Няхай добры Бог узмацняе яго духоўныя і цялесныя сілы, а Маці Божая хай ахінае апекай і любоўю!*

***Парафіяне касцёла св. Андрэя Баболі***



## Шчыра дзякуем!



*Нізка кланяемся і дзякуем* ***ксяндзу Генадзю Ляўкову*** *за клопат, за ласку і дабрыню, за тое, што вучыць любіць Бога і бліжняга, што памятае і клапоціцца пра духоўны стан састарэлых людзей. Людзей, якія не маюць сілы хадзіць у касцёл, наш дарагі айча наведвае і спавядае дома.*

*Ксёндз Генадзь працуе ў нашай парафіі другі год і вельмі ўразіў парафіян сваімі казаннямі і споведдзю. Здаецца, што кожнае яго слова льецца з сэрца.*

*Жадаем паважанаму ксяндзу Генадзю на нялёгкім святарскім шляху не страціць любові да Бога і парафіян. Няхай Усемагутны Бог дапамагае яму ў выкананні жыццёвых планаў, а Маці Божая хай ахіне сваёй апекай і прытуліць да свайго Матчынага сэрца.*

*Няхай Уваскрослы Хрыстус адорвае бацькоў ксяндза Генадзя за іх цудоўнага сына-святара ўсімі патрэбнымі ласкамі і моцай сваёй любві на доўгія гады.*

***З павагай і любоўю, парафіяне касцёла Св. Пятра і Паўла ў Дрысвятах (Браслаўскі р-н)***



## Падзяка з Гняздзілава

### Хвала Хрысту!

Вялікая Божая ласка цёплымі сонечнымі промнямі і дрыготкімі павевамі ветру дакраналася да кожнага, хто 3 красавіка прыйшоў да невялікай капліčкі Езуса Міласэрнага ў в. Гняздзілава. На свята да нас завітаў яго Эксцэленцыя біскуп Алег Буткевіч. Праз яго да нас, грэшных і добрых, старых і маладых, здаровых і хворых, прамаўляў Езус Міласэрны аб бясконцай любові, звяртаўся да кожнага сэрца, каб яно палымнела верай і надзеяй, каб душа імкнулася да Пана Бога і дзякавала Маці Божай.

Было светла і радасна, было адчуванне, што Дух Святы рэальна лунаў сярод нас, а Езус Хрыстус хацеў прыгарнуць нас да Сябе, даць ласку і міласэрнасць, надзею збаўлення праз Сваё Змёртвыхпаўстанне.

Гэты дзень нам Пан Бог падарыў! І мы ўдзячныя Яму за такі дарунак, паднесены праз дбанне і клопат біскупа Алега Буткевіча, пробашча Докшыцкай парафіі а. Юрыя Катовіча, айцоў Марэка Пасюта і Тадэвуша Кавальскага, сясцёр-адаратарак Крыві Хрыстовай Маргарыты і Надзеі, міністрантаў, хору, які цудоўным спевам праслаўляў Езуса Хрыста, а таксама брата Войцеха Врублеўскага, які на заканчэнне свята прыгатаваў найсмачнейшы супжурык, і ўсіх гасцей, якія пілігрымавалі да нас.

Найсвяцейшая Тройца, адзіны Божа! Адары ўсіх ласкай доўгага жыцця, добрага здароўя, суцеш у цярпеннях, змілуйся над усімі праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі і ўсіх святых і блаславі на сустрэчу ў наступным годзе.

***З удзячнасцю і падзякай да ўсіх, вернікі з в. Гняздзілава***

## Віншуем! Хвала Хрысту!

*9 красавіка адзначыла свой дзень нараджэння сястра Тацяна, якая на працягу многіх гадоў служыць арганісткай у нашым касцёле Святой Тройцы.*

*Мы, вернікі, ад усяго сэрца віншуем* ***сястру Тацяну,*** *жадаем ёй моцнага здароўя, дароў Духа Святога, апекі Маці Божай і святой Цэцыліі, каб талент сястры Тацяны яшчэ многія гады прыносіў плён нашай парафіі, а яе голас упрыгожваў набажэнствы ў нашай святыні!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***



## Хвала Езусу Хрысту!



*Віншуем Вас,* ***ксёндз Мікалай Ліпскі,*** *з дзевяцігоддзем (8 красавіка) пастырскай службы ў касцёле святога Тадэвуша ў Лучаі! Молімся Богу, каб свята Уваскрасення заўсёды асвячала Ваш шлях.*

***Кацярына Сосна, ад імя адданых Вам, ксёндз Мікалай, "Маргарытак" – землякоў з Шаркаўшчынскай парафіі***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*23 красавіка наш паважаны* ***ксёндз Юрый Бараўнёў*** *святкуе Дзень нараджэння і імяніны. Мы, вернікі парафіі Маці Божай Каралевы Кароны Польскай з Порплішча, сардэчна віншуем нашага паважанага, шчырага, клапатлівага, добразычлівага, дарагога пастыра, які вучыць нас любіць Бога, ісці дарогай Божай Праўды, разумець Святое Пісанне. Ксёндз Юрый працуе з намі ўжо адзінаццаць гадоў. Мы яго вельмі любім!*

*Жадаем Вам, ксёндз Юрый, моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога і ўсіх ласкаў Божых. Хай Вам заўсёды дапамагае Бог! А мы штодзённа шчыра молімся за Вас.*

***Ад імя парафіян, Нарбэрта Камянецкая***



## Віншуем! Хрыстос уваскрос! Хвала Яму навекі!

У красавіку (23, 25, 28) імяніны адзначаюць **айцы капуцыны Юрый Катовіч, Марэк Пасют, Віталь Юркевіч, брат Войцех Врублеўскі.** Мы шчыра рады таму, што маем і мелі магчымасць разам з імі маліцца да Пана Бога. Дзякуем Яму за нашых айцоў. Ад усяго сэрца жадаем, каб радаснае свята Уваскрасення Хрыстова асвячала іх сэрцы нябесным святлом Божай Любові і Міласэрнасці, каб Маці Божая апякала іх заўжды і ўсюды.

Прысвячаем ім словы з цудоўнай песні «Молитва о духовном отце»:

*Не зная ни сна, ни отдыха, без храма как без воздуха,*
*Он молится о нас молитвою любви.*
*Пусть мы все такие разные, но с ним навеки связаны,*
*И, Бог мой, в жизни будущей Ты нас не разлучи!*
*Спаси и помилуй, Господи, отца моего духовного,*
*На многие лета дай ему терпения и любви,*
*Спаси и помилуй, Господи, отца моего духовного*
*И ради его святых молитв и нас благослови.*

***З пашанай, малітвай і любоўю, вернікі Докшыцкай парафіі з в. Гняздзілава***

**Правільныя адказы на віктарыну са стар. 19:**

1.В; 2. Б; 3. В; 4. А; 5. Б; 6. Б; 7. В; 8. А; 9. Б; 10. Б; 11. В; 12. А; 13. В; 14. Б; 15. А; 16. Б; 17. В; 18. Б; 19. А; 20. Б.

З ЮБІЛЕЕМ!

# ПАЗНАВАЙКА

### Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл

5

## ЗНАЙДЗІ АДРОЗНЕННІ

У святочным торціку для "Каталіцкага Весніка" знайдзі сем адрозненняў. Кожны элемент, які адрозніваецца, абвядзі алоўкам.





## РАЗМАЛЮЙ

Размалюй мядзведзіка, які віншуе газету «Каталіцкі Веснік» са Святам!



## ПЕРАНЯСІ СЛОВЫ

Словы, змешчаныя на фігурах уверсе, запішы ў адпаведныя, аднолькавыя пустыя фігуры. Прачытай, што атрымалася

ВЕСНІК ў ВЕСТКА ТВАІМ ДОБРАЯ ДОМЕ КАТАЛІЦКІ —

## ЗЛУЧЫ КРОПКІ І НАПІШЫ ПАЖАДАННІ

Злучы кропкі. У кожны атрыманым пялёстку напішы па аднаму пажаданню для "Каталіцкага Весніка". Кветку з пажаданнямі расфарбуй.




## ДАПАМАЖЫ ПАШТАЛЬЁНУ

Дапамажы паштальёну занесці газету «Каталіцкі Веснік» у паштовую скрыню



## МАЛІТВА

Дарагі Божа! Дзякую Табе за каталіцкіх журналістаў, якія служаць блізкім сваёй працай у газетах, на тэлебачанні і ў інтэрнэт-выданнях. Дапамажы ім шчыра выконваць свае абавязкі. Прашу Цябе дай ім сілы рупліва абвяшчаць Евангелле чытачам і гледачам сродкаў масавай інфармацыі.

## ЗНАЙДЗІ ЖУРНАЛІСТА

Сярод прафесій, якія змешчаныя на малюнку, знайдзі журналістаў. Малюнкі з іншымі прафесіямі закрэслі






**Зрабі бацькам прыемна, прынясі добрую вестку дадому!**

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *Ідэя:* ***Ірына Грэйць***

# Мы захапляліся Яго ўсмешкай...



**Вось ужо 4 гады прайшло, як закончыў свой зямны шлях ксёндз Уладас Пятрайціс.**

З 1985-га па 2000 гг. ён быў пробашчам, а пазней і дэканам Мёрскага касцёла. Пры ім на ахвяраванні вернікаў каля святыні былі пастаўлены адзіны ў Еўропе помнік ненароджанаму дзіцяці.

У 1998 годзе таксама на ахвяраванні вернікаў была ўстаноўленая манументальная скульптура Маці Божай з Дзіцяткам Езус. На новых парафіяльных могілках у Мёрах была пабудаванаякапліца. Нястомна айцец Уладас займаўся адраджэннем касцёла ў Лявонпалі.

Ксёндз быў таленавітым пастырам з моцнай верай і надзеяй, які не шкадаваў сябе для іншых, і так было да апошняй хвіліны жыцця.

Уладас Пятрайціс, паводле ўспамінаў людзей, якія яго ведалі, валодаў нястомнай энергіяй. Ён арганізоўваў пілігрымкі, праводзіў заняткі з дзецьмі, захапляў моладзь, адраджаў веру на нашай беларускай зямлі, заўсёды штосьці будаваў і рамантаваў, пісаў вершы, выдаваў газету "Голас душы". Ксёндз нястомна шукаў людзей, якія могуць адгукнуцца і прыйсці да Хрыста. Дзе б ён ні з'яўляўся, прывабліваў да сябе сваёй неардынарнасцю, любіў дзяліцца сваімі ўражаннямі, захапленнямі і задумамі. Заўсёды знаходзіў удзячных суразмоўцаў і слухачоў.

Ксёндз Уладас заўсёды спяшаўся. Цаніў жыццё і любіў людзей. Як чалавеку яму была ўласцівая цёплая і шчырая ўсмешка. Мы заўсёды захапляліся гэтым і цешыліся з яго аптымізму.

У ксяндза Уладаса Пятрайціса як чалавека мудрага і інтэлігентнага было сціплае меркаванне пра сябе самога. У ім не было ні грама пагарды да навакольных, да тых, хто побач.

Яго словы заўсёды суцяшалі. Ксёндз быў уважлівы да кожнага парафіяніна і цікавіўся жыццём таго, з кім размаўляў. Ён вітаў чалавека, якога бачыў пару раз у жыцці, так, усё роўна як яго толькі і чакаў апошнія гады і, нарэшце, сустрэў. Ён ніколі не абмяжоўваўся простымі, хай нават самымі прыгожымі словамі прывітання, заўсёды зацікаўлена пытаўся, ці ўсё добра, ці ўсе здаровыя і пра іншыя справы.

Кожны, хто ў сваім жыцці меў магчымасць сустрэцца з ксяндзом Уладасам Пятрайцісам, быў перакананы, што менавіта яго свяртар паважае калі не больш за іншых, дык, прынамсі, у шэрагу першых. Ён умеў быць блізкім для ўсіх без фальшу, што азначала адно: ксёндз аддаваў усяго сябе людзям – маладым і сталым, дзецям і старым, парафіянам і вернікам іншых канфесій, добра знаёмым і тым, хто толькі што пераступіў парог касцёла, тактоўным і не вельмі, нястрыманым і ветлівым, карацей, усім.

На Свята Уваскрасення Збаўцы нашага Есуса Хрыста з цеплынёй у сэрцы мы ўспамінаем, як падчас працэсіі асаблівым голасам ксяндза гучала мелодыя "Вэсолы нам дзень дзісь настаў", і якім асабліва кранальным было адчуванне блізкага Свята, і як з нецярплівасцю чакалі, калі ксёндз Уладас з духоўным энтузіязмам і незвычайнай радасцю на розных мовах паведаміць нам, яго парафіянам, таямнічую з глыбіні вякоў ісціну:

*"Хрыстос уваскрос!*
*Христос воскрес!*
*Chrystus zmartwychwstał!"*

І цяпер у сваіх успамінах чакаем...

Светлы вобраз ксяндза Уладаса Пятрайціса, захаваны ва ўспамінах тых, хто яго ведаў і паважаў, застанецца ў нашых сэрцах і будзе для нас суцяшэннем і надзеяй.

9 мая, у дзень чацвёртай гадавіны смерці ксяндза Уладаса Пятрайціса, словамі малітвы хочам звярнуцца да Пана Бога:

*"Пане, учыні, просім, каб твой слуга, ксёндз Уладас Пятрайціс, якога ў зямным жыцці Ты паклікаў да святарскай годнасці, радаваўся вечна ў нябеснай хвале. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн".*

Ад імя парафіян Лявонпальскай парафіі Мёрскага раёна,
***Алена Сакалоўская***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**24 красавіка 2016 г.**

***Ян 13, 31-33а; 34-35***

Езус любіць сваіх вучняў. Ён дае нам галоўную запаведзь нашай веры. Цэнтр жыцця Езусавых вучняў – гэта любоў да бліжняга. А Ён з'яўляецца крыніцай гэтай любові. Мы павінны любіць адно аднаго так, як Ён палюбіў нас. Любоў Езуса – гэта ўзор, на які нам трэба раўняцца. Узаемная любоў – гэта знак, што мы належым да ліку Яго вучняў. І яна павінна настолькі пераўзыходзіць любоў паміж людзьмі, якія не ведаюць Хрыста, каб па ёй нас пазнавалі ў свеце як Хрыстовых вучняў.

*– Ці веру, што Бог мяне любіць?*

*– Ці аднаўляю ў сабе свядомасць Яго любові?*

*– Як выглядаюць мае адносіны з маімі блізкімі?*

*– Ці люблю іх, як Хрыстус?*

*– Якія маю праблемы ў гэтых адносінах?*

*– Што зрабіў бы на маім месцы Хрыстус?*

*– Ці размаўляю пра гэта з Ім падчас малітвы?*

*– Ці вучуся будаваць адносіны з бліжнімі?*

*– Ці размаўляю пра гэта са сваім духоўнікам?*

*– Ці шукаю падказкі ў Божым Слове?*

*– Ці адрозніваецца асяроддзе, якое я ствараю вакол сябе, ад свецкага?*

*– Ці з'яўляецца любоў гэтым адрозненнем?*

*– Што трэба зрабіць, каб больш любіць сваіх бліжніх?*

**1 мая 2016 г.**

***Ян 14, 23-29***

Любоў да Езуса выражаецца ў выкананні Яго навукі. Прынцыпы, Мудрасць і Праўда, якія Езус прыносіць людзям – гэта Словы Жыцця. Не хопіць сказаць, што любім Яго, але трэба выконваць Яго навуку. Гэта і будзе сапраўднай любоўю. Навука Езуса – гэта не прыгожая чалавечая навука. Гэта – Божая Мудрасць. Чалавек, які выконвае Божую навуку, запрашае да свайго сэрца Бога. Бог – Святы Дух – дапамагае тым, хто імкнецца жыць згодна з Божай воляй. Ён дае святло і зразуменне. Ён адорвае супакоем. Яго дары дапамагаюць знайсці сілу выстаяць у такім сур'ёзным выпрабаванні, як смерць.

*– Ці сур'ёзна я стаўлюся да Хрыстовай навукі?*

*– Ці памятаю, што Хрыстову навуку захоўвае і перадае супольнасць Касцёла?*

*– Ці прызнаю аўтарытэт Божай навукі?*

*– Якія праблемы з'яўляюцца ў жыцці?*

*– Як я з імі змагаюся?*

*– Да каго звяртаюся па дапамогу, каб лепш выконваць і разумець Божую навуку?*

*– Ці развіваю сваю рэлігійную адукацыю?*

*– Ці памятаю, што я не адзін (са мною Бог) у маіх намаганнях жыць паводле Яго волі?*

*– Ці ў Езуса шукаю адказаў на сур'ёзныя пытанні свайго жыцця?*

*– А можа, ёсць справы, якія я не хачу звяраць з Божым вучэннем?*

*– Чаму?*

*– Ці шукаю і ці знаходжу суцяшэння і падтрымкі ў маіх штодзённых праблемах у Божай навуцы?*

**8 мая 2016 г.**

***Ян 17, 20-26***

Езус моліцца аб еднасці паміж намі – Яго вучнямі. Узровень высокі: паміж намі павінна быць такая еднасць, як паміж Богам-Айцом і Езусам. Гэта і будзе знак для свету. Зразумела, будаванне еднасці – гэта працэс. У такой справе нам патрэбна Божая падтрымка. Вучняў Езуса яднае прызнанне Яго Панам, а таксама любоў да Айца, пра якую ім аб'яўляе Езус і ў якую іх акунае.

*– Ці маё сужэнства, супольнасць умацавана еднасцю на ўзор еднасці Езуса і Айца?*

*– Ці прыкладаю намаганні, каб будаваць еднасць паміж вучнямі Хрыста?*

*– А можа, разбураю еднасць зайздрасцю, падазронасцю, грахом?*

*– Ці малюся за еднасць?*

*– Ці будую еднасць на сапраўдным падмурку, якім з'яўляюцца любоў да Хрыста, супольныя пошукі Божай волі, каб лепш акунуцца ў Яго любоў?*

**15 мая 2016 г.**

***Ян 20, 19-23***

Божы Дух – гэта Бог, Які дзейнічае ў нашых сэрцах. Мы не бачым Яго, але бачым наступствы Яго дзеянняў. Ён асаблівым чынам дзейнічае праз Касцёл, апосталаў і іх спадкаемцаў – біскупаў. Ён адраджае нас да новага жыцця праз адпусканне грахоў. Бог атуляе нас сваёй міласэрнасцю, далікатным дзеяннем Божага Духа ў спавядніцы, у Божым слове, у супольнасці Касцёла, у сакрамантах, у голасе сумлення.

*– Ці памятаю, што Бог жыве ў маім сэрцы?*

*– Ці прашу дароў Святога Духа?*

*– Ці слухаю Яго натхненняў?*

*– А можа, занядбоўваю Божае заахвочванне да добрых спраў?*

*– Ці прызнаю аўтарытэт Касцёла?*

*– Ці карыстаюся дарамі, якімі Бог адорвае мяне праз сакраманты?*

*– Ці чытаю і ці разважаю над Божым Словам?*

*– Ці працую духоўна над сваім унутраным светам?*

*– Ці разумею, што гэта Бог – прычына ўсяго добрага ўва мне?*

*– Ці сур'ёзна стаўлюся да Божага дзеяння ў маёй душы?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*www. lyntupy.by*



**У рэдакцыі “Каталіцкага Весніка” можна замовіць малітоўнік “Бог Добры”, які выдала Пінская дыяцэзія ў 2015 годзе.**

**У кнізе 36 літаній, Ютрань, нядзельныя Нешпары, малітвы ў падарожжы, на адправіны хлопца ў войска, на жаніцьбу, а таксама шмат старадаўніх малітваў за памерлых.**

# Малітоўнік “Бог Добры”

Пра сваю працу над выданнем малітоўніка распавядае **айцец Пётр Бялевіч**, місіянер-аблат: “Малітоўнік стварылі непрафесійнай групай з чатырох чалавек. Вырашылі зрабіць малітоўнік, які калісьці мелі нашы бабулі. Бо шмат разоў, калі я ездзіў па Беларусі, людзі пыталіся: а што ў вас за кніга, паказваючы на брэвіярый, а чаму ў вас так многа малітваў, а ў нас столькі няма? Людзі прасілі такі малітоўнік, дзе было б шмат малітваў. І я падумаў: а чаму сапраўды не зрабіць малітоўнік на ўсе выпадкі жыцця? Шукаць далёка не трэба было, бо старых кніжак хапае ў кожнага святара, праўда, большасць на польскай мове. Людзі прыносяць часам малітоўнікі ад сваіх памерлых бабуляў, кніжкі, якім сто або нават больш гадоў”.




Малітоўнік “Бог добры” – самы ёмісты ў Беларусі. Там сабраныя ўсе распаўсюджаныя і амаль забытыя малітвы, набажэнствы, спевы, характэрныя для Касцёла на нашых землях. **Аб’ём малітоўніка – больш за 1055 старонак.**

**Замовіць малітоўнік можна** ў рэдакцыі “Каталіцкага Весніка”, патэлефанаваўшы па нумары **+375 29 736 53 07** або напісаўшы нам ліст на адрас:

***вул. Савецкая, 1***
***211800 г. Глыбокае,***
***Віцебская вобласць,***

ці даслаўшы запыт на электронны адрас: katalickivesnik@gmail.com.

**Кошт малітоўніка – 150 000 руб.** Ён высылаецца накладзеным плацяжом праз Белпошту. Увага! Замоўца аплочвае ўсе выдаткі па перасылцы.

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Ганна Карніловіч** *(Глыбокае)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Чэслаў Салодкі** *(Дзеркаўшчына)*, **парафіяне з Друйска**, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Соф’я Чырвінская** *(в. Язні, Вілейскі р-н)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Аліна Гайлеўская** *(в. Леампалле, Браслаўскі р-н)*, **Марыя Шук** *(в. Леанполь, Мёрскі р-н)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Святлана Бадзюл** *(Паставы)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Сцепаніда Лупач** *(в. Заварaты)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Ванда Дземісенка** *(Гомель)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
*вул. Савецкая, 1*
*211793 г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

# Свята "Зямля пад белымі крыламі" ў Росіцы

**Айцец Чэслаў Курэчка МІС запрашае ў Росіцу на свята, якое запланавана на 30 красавіка.**

Асноўныя ідэі свята:

- абарона беларускіх сем’яў перад сучаснымі выклікамі;
- малітва за Беларусь;
- клопат пра навакольнае асяроддзе ў Беларусі.



“Бусел – сімвал Беларусі і сімвал сям’і. Хочацца падкрэсліць гэтым святам неабходнасць абароны нашай Бацькаўшчыны і сям’і ад усякага зла. Калі ў беларусаў будуць святыя і добрыя сем’і, ніякая бяда нам не страшная. І, канешне, мяне як аматара прыроды хвалюе экалагічны стан нашай зямлі. Папа Францішак заклікае ў сваёй энцыкліцы “Laudato si” бараніць прыроду, бо яна – Божы дар. Таму вось такім птушыным святам, спадзяюся, нам удасца яшчэ раз нагадаць пра сур’ёзныя выклікі нашага часу і заахвоціць людзей змагацца з імі”, – падзяліўся святар пра сваю новую мару.

**Праграма свята:**

**11.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, магчымасць прыступіць да сакраманту пакаяння
**11.30** – канферэнцыя «Экалогія сям’і» (айцец Віталь Сапега ОР)
**12.00** – святая Імша
**13.00** – паэтычная праграма
**14.00** – пачастунак у летнім кафэ «У бусла». Грыбная полiўка «ад айца Чэслава»




Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2380

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3500 экз.
Аб'ём 6 друкаваных аркушаў, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.04.2016 г. у 13.05

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь